ПРАЛЕТАРЫІ ЎСІХ КРАІН, ЯДНАЙЦЕСЯ!

# Літаратура і мастацтва

ВЫДАЕЦЦА З 1932 г.

ОРГАН МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ І ПРАЎЛЕННЯ САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БССР

№ 19 (2650) • Субота, 12 мая 1973 года • Цана 8 кап.

## У НУМАРЫ ЧЫТАЙЦЕ:

ГАРАЧАЯ ПАРА ХЛЕБАРОБАЎ Стар. 2.

ПЕРАКЛАДЧЫКАМ І ПРАПАГАНДЫСТАМ БЕЛАРУСКАЙ ЛІТАРАТУРЫ — ГАНАРОВАЕ ЗВАННЕ Стар. 5.

НОВАЕ АПАВЯДАННЕ А. КАПУСЦІНА Стар. 6.

РЭЦЭНЗІІ НА КНІГІ А. АДАМОВІЧА І А. МІРОНАВА Стар. 7.

ФІЛЬМ ПРА НАРОДНАГА ПАЭТА Стар. 8.

ПАЭЗІЯ АГНЮ І МЕТАЛУ. КАРЭСПАНДЭНЦКІ ПУНКТ «ЛІМа» НА МТЗ Стар. 10.

ВЕЧАРЫ Ў ЯРОМІНСКІМ ДОМЕ КУЛЬТУРЫ Стар. 12.

ЗАЎТРАШНІ ДЗЕНЬ НАРОДНАГА ТЭАТРА Стар. 13.



Фота Ул. КРУКА.

Янка Маўр... На яго кнігах выхаваны многія пакаленні дзяцей. Ён адкрываў нам красу блізкіх і далёкіх краёў, вабіў нас у поўныя прыгод падарожжы, вучыў бачыць незвычайнае ў звычайным. Ён выхоўваў любоў да нашай сацыялістычнай Бацькаўшчыны, вучыў любіць працоўных усяго свету.

Выдатны мастак і педагог, Янка Маўр сваімі кнігамі заўсёды з намі, з нашымі юнымі чытачамі. У свет яго герояў будуць уваходзіць новыя і новыя пакаленні нашых нашчадкаў.



Мінск. 9 мая 1973 г. Ускладанне вянкоў ад ЦК КПБ да помніка-абеліска на плошчы Перамогі.

Фота У. ЛУПЕЙКІ і А. НІКАЛАЕВА. (БЕЛТА).

# ПАКАЗВАЕ ПОЛЬШЧА

*АДКРЫЦЦЕ Ў МІНСКУ ВЫСТАЎКІ ЭКСПАРТНЫХ ТАВАРАЎ ПНР*

«Зроблена ў Польшчы» — вялікі маляўнічы транспарант, які ўзвышаецца над пляцоўкай ля Мінскага Палаца спорту, запрашае працоўных сталіцы рэспублікі і яе гасцей наведаць выстаўку экспартных тавараў Польскай Народнай Рэспублікі. У палацы і на суседняй з ім абшырнай пляцоўцы разгорнута вялікая экспазіцыя, якая характарызуе рост эканомікі брацкай краіны. Наведвальнікі могуць пазнаёміцца тут з развіццём прамысловасці ПНР, навінкамі прадукцыі, выробленай для паставак у Савецкі Саюз і іншыя сацыялістычныя краіны.

Трыццаць знешнегандлёвых аб'яднанняў і прадпрыемстваў ПНР дэманструюць самыя разнастайныя вырабы: грузавыя аўтамабілі, дарожна-будаўнічыя машыны, станкі, дакладнейшыя вымяральныя прыборы, шырокую гаму тавараў народнага спажывання і іншую прадукцыю.

9 мая на афіцыйнае адкрыццё выстаўкі ў Мінск прыбыла дэлегацыя ПНР на чале з намеснікам Старшыні Савета Міністраў ПНР К. Альшэўскім. У яе саставе — Надзвычайны і Паўнамоцны пасол ПНР у Савецкім Саюзе З. Новак, міністр замежнага гандлю ПНР Т. Аляхоўскі, міністр унутранага гандлю і паслуг ПНР Э. Шнайдэр, міністр лёгкай прамысловасці ПНР Т. Куніцкі, першы сакратар Варшаўскага ваяводскага камітэта ПАРП Ю. Ракашэўскі, першы намеснік старшыні Варшаўскай рады нарадовай Э. Лючынскі, паўнамоцны міністр, гандлёвы саветнік пасольства ПНР у СССР В. Гвязда, кіраўнікі ведамстваў, знешнегандлёвых арганізацый ПНР.

10 мая адбылася ўрачыстая цырымонія адкрыцця выстаўкі. У Палац спорту прыбылі кандыдат у члены Палітбюро ЦК КПСС, першы сакратар ЦК КПБ П. М. Машэраў, Старшыня Прэзідыума Вярхоўнага Савета БССР Ф. А. Сурганаў, Старшыня Савета Міністраў БССР Ц. Я. Кісялёў, міністр замежнага гандлю СССР М. С. Патолічаў, члены і кандыдаты ў члены Бюро ЦК КПБ, члены ўрада рэспублікі, адказныя работнікі ЦК КПБ, Прэзідыума Вярхоўнага Савета БССР, Савета Міністраў БССР, кіраўнікі рэспубліканскіх міністэрстваў і ведамстваў, гандлёва-прамысловых палат СССР і БССР.

Урачыстую цырымонію адкрыў старшыня прэзідыума Гандлёва-прамысловай палаты БССР І. Е. Сталівоненка.

Польскіх сяброў сардэчна вітаў на беларускай зямлі, пажадаў паспяховай работы выстаўцы першы намеснік Старшыні Савета Міністраў БССР У. Е. Лабанок. Ён выказаў упэўненасць, што выстаўка паслужыць справе далейшага расшырэння гандлёвых сувязей на карысць працоўных абедзвюх краін, умацавання брацкай дружбы паміж савецкім і польскім народамі.

— Гэта выстаўка адкрываецца ў асабліва важны для нас момант, — сказаў намеснік Старшыні Савета Міністраў ПНР К. Альшэўскі. — Нядаўна мы святкавалі 28-ю гадавіну з дня падпісання паміж ПНР і СССР Дагавору аб дружбе, узаемнай дапамозе і пасляваенным супрацоўніцтве. Ён заклаў асновы для хуткага і ўсебаковага развіцця палітычных і эканамічных адносін паміж нашымі народамі, дзякуючы чаму Польшча, за адно пакаленне ператварылася ў сучасную прамысловую краіну, якая хутка развівае невядомыя раней галіны прамысловасці, такія, як авіяцыйная, суднабудаўнічая, электронная і іншыя.

К. Альшэўскі аб'яўляе выстаўку адкрытай.

Кандыдат у члены Палітбюро ЦК КПСС, першы сакратар ЦК Кампартыі Беларусі П. М. Машэраў разразае стужку.

На адкрыцці выстаўкі прысутнічалі генеральны консул ПНР у Мінску А. Валяшак, генеральны консул ГДР у Мінску Л. Волерт.

БЕЛТА.

# ВУЧОНЫ САВЕТ ЧАСОПІСА

Пры рэдакцыі часопіса «Полымя» створаны і працуе з пачатку года аўтарскі савет па даследаванню надзённых праблем навукова-тэхнічнай рэвалюцыі. У склад савета ўваходзяць вучоныя, літаратары і мастацтвазнаўцы.

Савет дапамагае рэдакцыі ў выбары і публіцыстычнай распрацоўцы навуковых тэм, падрыхтоўцы артыкулаў і нарысаў пра беларускіх вучоных і дзеячоў мастацтва.

На пасяджэннях савета, напрыклад, ужо разгледжаны праца доктара геолага-мінералагічных навук, прафесара Б. Л. Лічкова «Прагрэс чалавецтва і наасфера», артыкулы І. А. Саракавіка «Падрыхтоўка кадраў вучоных у рэспубліцы», Р. К. Баландзіна «Паэзія творчасці і тэхнагенез», якія былі прапанаваны рэдакцыі.

Члены савета актыўна ўдзельнічаюць у абмеркаванні актуальных пытанняў навукова-тэхнічнага прагрэсу і сучаснасці. Да выступленняў яны рыхтуюцца абгрунтавана, усебакова, шырока: як правіла, на пасяджэннях узнікаюць жывыя і плённыя спрэчкі.

Нядаўна саветам рэдакцыі «Полымя» заслуханы даклад кандыдата філалагічных навук М. І. Мішчанчука «Навукова-тэхнічная рэвалюцыя і яе адлюстраванне ў творах сучаснай беларускай літаратуры». Цікавы, змястоўны даклад дапоўніў садакладам на гэтую ж тэму кандыдат біялагічных навук У. К. Саўчанка. Размова была шчырая і хвалюючая. Яе падтрымалі доктар філасофскіх навук Я. М. Бабосаў, кандыдат філасофскіх навук Э. У. Волкава, мастацтвазнаўца В. Ф. Нячай і іншыя.

Аўтарскі праблемны савет адобрыў асноўныя тэзісы дакладаў і прапанаваў М. І. Мішчанчуку ў хуткім часе выступіць на старонках часопіса з артыкулам, прысвечаным асваенню і распрацоўцы беларускай літаратурнай «цаліны» — праблем і пытанняў сучаснай навукова-тэхнічнай рэвалюцыі.

**В. СЫНВЕРЫН.**

# МЫ—МАЛАДЫЯ

Штогоднік «Родники», першы выпуск якога толькі што выйшаў у выдавецтве «Молодая гвардия», — кніга літаратурных дэбютаў. На яе старонках будуць друкавацца творы тых, хто ў літаратуры робіць толькі першыя крокі, а таксама паэтаў, празаікаў, гумарыстаў з усіх саюзных рэспублік, якія ўпершыню прадстаўляюцца ўсесаюзнаму чытачу.

У першым выпуску шмат беларускіх аўтараў. Паэт Іван Бурсаў коратка ахарактарызаваў творчасць і пераклаў некаторыя вершы Валянціна Лукшы, Яўгена Крупенькі, Іосіфа Скурко, Паўла Марціновіча. У зборніку прадстаўлены таксама Людміла Ганчарова і Валерыя Маргуліс, якія пішуць на рускай мове.

Вядомы паэт Уладзімір Цыбін у артыкуле «Слова аб маладой паэзіі» станоўча ацэньвае творы В. Лукшы і П. Марціновіча.

Тры мільёны абанентаў у нашай краіне карыстаюцца польскімі тэлефоннымі апаратамі. Два мільёны савецкіх кватэр абсталяваны польскімі газавымі плітамі. Пра гэта паведамляе спецыяльны праспект пад назвай «Зроблена ў Польшчы».

Гэтак жа называецца і выстаўка прамысловых тавараў, якая адкрылася ў Мінскім палацы спорту.

На выстаўцы вы ўбачыце «машыны, што аблягчаюць працу і робяць зручным быт, тавары, якія робяць прыемным адпачынак і ўпрыгожваюць жыллё. А таксама ўсё, што вы носіце і чым падкрэсліваеце сваю прыгажосць».

Другая прамысловая выстаўка ПНР у Мінску — самая прадстаўнічая з усіх, якія праходзілі ў Савецкім Саюзе.

На адкрытай пляцоўцы — самыя буйныя экспанаты: будаўнічыя, дарожныя і сельскагаспадарчыя машыны, трактары, рознае абсталяванне. Тут жа, на зялёнай мураве — рознакаляровыя палаткі, надуўныя лодкі і іншыя спартыўныя прылады.

У фае і глядзельнай зале палаца — тавары шырокага ўжытку. Асабліва шырока прадстаўлены традыцыйныя галіны польскай прамысловасці — тэкстыльная, швейная і абутковая. Дзесяткі колераў яркіх і пастэльных таноў тканін, узоры элегантнага і дзелавога адзення, модны і практычны абутак. Яркая маляўнічая экспазіцыя «ажывае» ў час дэманстрацыі моды, якая праходзіць штодзень.

Вялікім попытам у нашых пакупнікоў карыстаецца польская мэбля. Мэблевыя фірмы дэманструюць новыя гарнітуры пад назвай «Грузія», «Малдова» і інш.

Цікавым дапаўненнем да інтэр'ераў з'яўляцца мастацкія вырабы фірмы «Цэпелія» — тканыя шарсцяныя посцілкі, вышываныя абрусы, мэбля з лазы, саломкі, плеценыя сумкі, кошыкі, драўляны посуд. А каляровы эмаліраваны посуд з Польшчы можа ўпрыгожыць кожную кухню.




На выстаўцы «Зроблена ў Польшчы».

Вялікі раздзел экспазіцыі займае хімія і група фармацэўтычных тавараў. Польшча — адзін з буйнейшых пастаўшчыкоў лякарстваў у нашыя аптэкі.

Кніжны стэнд выстаўкі носіць урачысты характар. На ім адлюстраваны тры важныя падзеі. Сёлетні год — год М. Каперніка. Цэнтральнае месца выстаўкі адведзена 500-годдзю з дня нараджэння вялікага польскага астранома. Альбомы, плакаты, буклеты, эканамічная, палітычная і мастацкая літаратура, прысвечаная эканоміцы і культуры краіны, экспануецца на стэндзе, прысвечаным 30-годдзю Народнай Польшчы, якое будзе адзначацца ў наступным годзе. Трэці раздзел называецца: «Да 50-годдзя ўтварэння СССР». Да гэтай падзеі была выпушчана спецыяльная літаратура. На стэндзе — кнігі савецкіх аўтараў у перакладах на польскую мову. Гэта, напрыклад, творы ўкраінскіх, грузінскіх і беларускіх пісьменнікаў. Зборнік «Вершы беларускіх паэтаў», выдадзены ў Лодзі ў 1971 годзе, уключае імёны паэтаў старэйшага, сярэдняга і малодшага пакаленняў Беларусі.



У адной з залаў выстаўкі.

Тут жа дэманструюцца выдатныя польскія плакаты, паштовыя маркі, перыядычныя выданні, часопісы, папулярныя ў савецкіх пакупнікоў.

Варта адзначыць, што на долю такога пакупніка як СССР прыпадае трэцяя частка ўсяго знешнегандлёвага абарота Польскай Народнай Рэспублікі.

У сваю чаргу, СССР пастаўляе сыравіну і паліва, машыны і абсталяванне для прамысловасці Польшчы.

Узаемныя пастаўкі братніх краін штогод узрастаюць. Узаемавыгадны гандаль адыгрывае немалаважную ролю ў гаспадарках абедзвюх краін і дапамагае выкананню пяцігадовых планаў СССР і ПНР.

**Р. БАКУНОВІЧ.**

ТАБЕ, ПЯЦІГОДКА!

Міхась ДАНІЛЕНКА

# ВЯСНА ПРЫСПЕШВАЕ

ЯКАЯ СІЛА закладзена ў малюсенькім зерні?

Сонца вясной шчодра лье промні на зямлю, дажджы пояць яе, і ў адзін з ясных дзён з пульхнай глебы праклёўваюцца першыя кволыя парасткі збажыны. З кожным днём усё больш сіл набіраюцца сцяблiны. А ў канцы лета важкі колас сагне сцяблiну на хлебнай ніве...

Аднойчы малы Валодзя запытаўся ў айчыма:

— Бацька, адкуль тая сіла бярэцца?

Іван Іванавіч доўга думаў, моршчыў лоб.

— Сіла, яна, Валодзя, з зямлі. Уся сіла — у зямлі...

Жылі яны тады ў вёсцы Новы Шлях на Брагіншчыне. Іван Іванавіч колькі помніў сябе, корпаўся на зямлі. Стараўся і пасынку прывіць святое пачуццё любві да працы хлебароба. Міне не адзін дзесятак гадоў, Уладзімір Цімафеевіч Самойленка стане паважаным чалавекам, набудзе веды, вопыт, але словы, якія гаварыў яму ў дзяцінстве айчым урэжуцца ў памяць на ўсё жыццё.

Многае залежыць ад зямлі. Але не ўсюды яна аднолькавая. Скажам, там, дзе другая брыгада — каля пасёлка Леніна — яна не такая, як каля вёсак Чырвонае Возера, Іванаўка ці Губарэвічы. Ды і вакол вёскі Стралічава не ўсюды аднолькавая зямля. І каб ведаць, на што здатна гэтая зямля, трэба адчуваць, чаго ёй не хапае, каб яна радзіла, каб колас на ёй вырас важкім, каб не ламаў вецер крохкую жытнюю сцяблiнку...

Пасля службы ў арміі Уладзімір паступіў вучыцца ў Гомельскі сельскагаспадарчы тэхнікум.

— Правільна, сын, рашыў, — здобрыў яго выбар айчым. — Многа яшчэ для нашай зямліцы працы і ведаў трэба, каб яна добра радзіла. Ой, многа!

Гэты маўклівы чалавек быў для Уладзіміра замест бацькі. Ён расціў яго, вучыў не цурацца ніякай працы, быць уважлівым да людзей. Нескладаная жыццёвая філасофія Івана Іванавіча заключалася ў тым, каб ты не дарэмна пражыў кожны дзень, каб табе не сорамна было паглядзець у вочы людзям за зробленае. Ён часцяком гаварыў:

— Ёсць такія людзі. Як бурбалкі пасля дажджу. Пшык — і няма. Часам тарахціць які, аж галава баліць ад таго тарахцення. А калі па-сур'ёзнаму што давядзецца зрабіць — дудкі, у кусты пашыўся...

З прагай накінуўся Уладзімір на падручнікі. Перад ім нібы нанава раскрылася кніга зямлі. Ды і ці ведаў ён яе, зямлю? Ён любіў яе вясной, калі глеба ледзь прыкметна дымілася парай; глыбокай восенню, калі зямля, аддаўшы чалавеку ўсё, на што была здольная, быццам засынала ў прадчуванні блізкіх халадоў. І зімой Уладзімір любіў часам прайсціся па хрусткім сняжку, любіў уяўляць, як спіць яна, матухна, набіраецца новых сіл перад будучай вясной.

Тры гады ў тэхнікуме праляцелі непрыкметна. На «выдатна» закончыў ён вучобу ў Гомелі. Якраз у тыя памятныя дні адбыўся вядомы вераснёўскі Пленум нашай партыі. Прымаліся карэнныя меры для паляпшэння спраў у сельскай гаспадарцы. І каму, як не яму, маладому спецыялісту, трэба было ісці туды, дзе непасрэдна вырашаліся справы?

Цяпер, часцяком успамінаючы тыя напружаныя дні, Уладзімір Цімафеевіч міжвольна здзіўляецца: адкуль браліся сілы? Яшчэ не займалася на зару, яшчэ туман прыкрываў полагам дахі дамоў, сады, а малады аграном ужо быў на нагах. Клопатаў хапала. У зоне яго абслугоўвання — аж чатыры калгасы. Трэба было думаць аб адборы насення, аб тым, які гатунак найбольш перспектыўны для гэтай глебы, клапаціцца, каб у час пасеяць. А потым у гарачцы паўсядзённых спраў праходзілі дні ў клопаце аб доглядзе пасеваў. Аграном насіўся па палях калгасаў, як апантаны, а ў душы адчуваў незадавальненне. Не, мала ў яго ведаў! Мала! Ды і хіба можна ў наш бурны, неспакойны век жыць з тым невялікім багажом ведаў, які ён атрымаў у тэхнікуме? «Трэба вучыцца далей, — рашыў Уладзімір Цімафеевіч. — Зямля любіць людзей пісьменных, якія яе разумеюць».

І Уладзімір Цімафеевіч зноў засеў за падручнікі. Цяпер у Беларускай сельскагаспадарчай акадэміі ён слухаў лекцыі паважаных прафесараў, канспектаваў найбольш важныя думкі. Часта ў кароткія хвіліны, што надараліся паміж лекцыямі, ён думаў аб тым, як, па сутнасці, мы яшчэ ў многім залежым ад капрызаў надвор'я, ад выпадковасцей. Часам насунецца шэрая хмара, шуганe вецер, і пасыплюцца буйныя, як шрацiны, градзіны. Яны бязлітасна ссякаюць каласы — набытак, што вырасцілі людскія рукі. А то пачне смаліць з бяздоннага летняга неба сонца. Баліць сэрца, калі глядзіш, як панура нікнуць, схіляюцца долу сцяблiны, сохнуць. Каласы, націна быццам просяць у чалавека: «Піць, піць...» Але дождж не ідзе. Трэскаецца глеба, выгараюць пасевы.... І ўсё ж недалёкі той час, калі чалавек навучыцца кіраваць сіламі прыроды. Бо на тое ён і чалавек...

І вось саўгас «Стралічава». Буйнейшая гаспадарка раёна. Каля двух тысяч сямісот гектараў ворыўнай зямлі, трыста гектараў садоў. Больш дзесяці гадоў працуе тут Уладзімір Цімафеевіч Самойленка. Пачынаў аграномам-насенняводам, а зараз — галоўны аграном гаспадаркі. Разам з ім працуюць аграномамі Іван Яфімавіч Фурманаў, Людміла Васільеўна Вараб'ёва, Ева Міхайлаўна Мішкевіч, Зоя Уладзіміраўна Валожынец. Колькі было ўкладзена сіл і старання ў мінулым годзе ў вырошчванне збажыны!

— Добра папрацавалі, — часцяком гаварыў дырэктар саўгаса Васіль Васільевіч Вараб'ёў. — Пасевы аж вока радуюць.

Пасевы і праўда былі цудоўныя. Роўным аксамітным дыванам раскінулася азіміна. Але не было снегу. Ціскануў мароз, і ў асобных мясцінах яна вымерзла.

А летам — спёка. Выгаралі вялікія лапіны ячменю, аўса. Уладзімір Цімафеевіч вяртаўся з поля ўчарнелы. Стомлена выціраў запыленыя шкельцы акуляраў, глядзеў на дырэктара.

— І ўсё ж ураджай збярэм неблагі, — гаварыў ён Васілю Васільевічу. — Быць не можа, каб наша старанне прапала марна.

Хто-хто, а ён, галоўны аграном, ведаў, як працавалі трактарысты Міхась Курленка, Мікола Грытчанка, Віктар Чэркас, Мікола Ломац ды і многія іншыя. Міхась Курленка вясной садзіў бульбу, а потым праводзіў міжрадковую культывацыю. На трактары ДТ-20 Мікола Ломац нарыхтоўваў угнаенні, вывозіў торфакрошку. А як пачалася ўборка ўраджаю, гадзінамі не сыходзіў з мосціка камбайна.

Зямля, хоць і скупавата, але аддзячыла людзей. У саўгасе сабралі па 23,1 цэнтнера збожжавых і 166 цэнтнераў бульбы з гектара.

— Нялёгкая ў нас пасада, — часам гаварыў Уладзімір Цімафеевіч дырэктару саўгаса. — Ды, урэшце, якая яна, лёгкая пасада на зямлі? Можа тая, пасля якой чалавек не пакідае ніякіх слядоў пасля сябе?

У напружанай працы праляталі дні, тыдні, месяцы. Зімою — агратэхвучоба, накапленне ўгнаенняў, вучоба механізаваных звенняў. А там не агледзішся, як зноў вясна. Вунь нясмела пацягнуў у блакіт нябёс срэбную нітку жаўранак. Цяпер з Уладзіміра Цімафеевіча — яшчэ большае запатрабаванне. Ды ён ніколі і не даваў сабе паслаблення, чалавек, які заўсёды думае аб заўтрашнім дні. Зноў зерне ў агралабараторыі, у свірнах набухла — у зямлю просіцца. Галоўны аграном ведае, якая вялізная сіла схавана ў тым маленькім зерні.

У студзені Уладзіміру Цімафеевічу прысвоілі ганаровае званне заслужанага работніка сельскай гаспадаркі рэспублікі. Ён узнагароджан Ганаровай граматай Міністэрства сельскай гаспадаркі СССР, медалем «За працоўную доблесць», двума бронзавымі медалямі ВДНГ.

І зноў зыркія сонечныя промні зайчыкамі адлюстроўваюцца ў лужынах. Тлумныя гракі крычаць на дрэвах, што акаймоўваюць сады. Уладзімір Цімафеевіч праглядае—яшчэ і яшчэ раз — вытворчую праграму яравой сяўбы. Толькі не прамарудзіць! У лічаныя дні, пакуль у глебе трымаецца вільгаць, трэба пасеяць раннія яравыя, а потым — пасадзіць бульбу. Каля пяцісот гектараў у саўгасе будзе пасеяна ячменю. Валавы збор мяркуецца атрымаць 13.938 цэнтнераў. Больш за 340 гектараў будзе высаджана бульбы. У гаспадарцы вырошчваецца азімая пшаніца на плошчы ў 500 гектараў. Больш, чым 31 цэнтнер з гектара, плануецца яе атрымаць. І, вядома ж, ні на хвіліну нельга забываць пра культуру земляробства — альфу і амегу аграномавых клопатаў.

Клопаты, клопаты. Іх нямала, асабліва вясной, у галоўнага агранома. Вось, здаецца, толькі на хвіліну заскочыў ён у кантору, зайшоў у кабінет дырэктара, які паехаў па справах у Мінск, а тут чакае яго сакратар райкома Уладзімір Ісаевіч Новікаў. Добра, што і сакратар парткома на месцы аказаўся, Віктар Рыгоравіч Мяккі; нялёгка быць і аграномам і хоць часова замяняць дырэктара гаспадаркі.

Яшчэ і яшчэ раз, выбраўшы вольную хвіліну, Уладзімір Цімафеевіч пераглядае план-карту веснавой сяўбы. Вось першая брыгада. Тут пад шматгадовымі травамі занята 45 гектараў. З восені ўнеслі сульфат амонія па аднаму цэнтнеру. Трэба цяпер вясной падкарміць суперфасфатам...

Вясна дыктуе. Вясна прыспешвае. І Уладзімір Цімафеевіч хутчэй выбягае з канторы. Поле — вось «апаратыўны прастор» агранома. На момант ён успамінае айчыма Івана Іванавіча, тое, як вучыў яго, малога, шанаваць зямлю, працу хлебароба. Добры чалавек! Восьмы дзесятак даўно размяняў, а тупае борзда. Яшчэ і народным засядацелем аднавяскоўцы выбіраюць.

Сонечныя праменні адлюстроўваюцца ў шкельцах акуляраў. Уладзімір Цімафеевіч знімае шапку, выцірае ўзмакрэлы лоб; ранняя, напорыстая сёлета вясна. Ён падымае галаву і ўслухоўваецца. Нястомны спадарожнік вясны жаваранак цёмным камячком трапеча над полем.

Хойніцкі раён.





Гэтыя здымкі фотакарэспандэнтаў БЕЛТА М. Жалудовіча і П. Наватараза адлюстравалі толькі дзве старонкі гераічнага летапісу барацьбы за высокі ўраджай трэцяга, рашаючага года пяцігодкі.

Хлопцы, якіх вы бачыце на верхнім здымку злева,—Мікалай Аўсеенка і Яўген Чарвонікаў працуюць у маладзёжным звяне Казіміроўскага аб'яднання «Сельгастэхнікі» Магілёўскага раёна. Заданне чатырох месяцаў гэтага года механізатары выканалі на 120 працэнтаў, правапнаваўшы звыш плана больш як 500 гектараў кіслых глеб.

Вось яны ў полі калгаса «Светлы прамень» — вядзецца вапнаванне (ніжні здымак злева).

Здымак справа пераносіць нас у саўгас «Доктаравічы» Капыльскага раёна, які славіцца добрымі ўраджаямі садавіны. Ідзе веснавы догляд саду.



# ПЕДАГОГ, РАМАНТЫК, ЧАРАЎНІК

*ДА 90-ГОДДЗЯ З ДНЯ НАРАДЖЭННЯ ЯНКІ МАЎРА*



Алесь МАСАРЭНКА

## АДНА СУСТРЭЧА

У 1967 ГОДЗЕ я працаваў на рэспубліканскім радыё. Запланавалі мы перадачу аб творчасці Янкі Маўра. Гэта і прывяло мяне на кватэру да славутага пісьменніка...

Іван Міхайлавіч сустрэў вельмі гасцінна. Адбылася цікавая гутарка пра творчасць пісьменніка. Мы мелі магчымасць не толькі паслухаць, але і запісаць на магнітафонную стужку многае з таго, пра што гаварыў Янка Маўр. Ён быў у добрым настроі і, нягледзячы на свае 84 гады, здзіўляюча дакладна прыгадваў не толькі асобныя выпадкі са свайго жыцця, але і тое, як пісаліся ім вядомыя творы... У прыватнасці, я спытаў пра апавяданне «Шчасце», што ўваходзіла ў падрыхтаваную намі перадачу. І Іван Міхайлавіч ахвотна расказаў яго гісторыю:

— Каля Пухавіч мост ёсць. Стаю на ім, тым мосце, а з гары на кіёчку вярхом скача да мяне хлапчук. І як ён зірнуў на мяне, як ён радасна выгукнуў: «Дзядзька, шапка!». Новая, значыць... Ай-яй, хвалюючая сцэна была! Потым я неяк у Глебкі спытаў: «А што, калі мне ды вось такі эцюдзік напісаць?» — і расказаў яму пра шчаслівага хлопчыка з яго новай шапкай. Дык ён мне і кажа: «Чаму ж ты не пішаш? Гэта ж цікавая рэч!» Я тады і напісаў апавяданне. І добрая рэч, здаецца, атрымалася. Паказаў я, праўда, выдаўцу аднаму, так сказаць, а ён мне і кажа: «Так не пойдзе». «Чаму?» — пытаюся ў яго. «Якое ж гэта шчасце можа быць ад новай шапкі?..» І прапанаваў мне, каб назваў я сваё гэта апавяданне так: «Шапка». Думаю, хай сабе — памяняў назву. Надрукавалі. Праз некалькі дзён яго перадрукавала ўкраінская «Літаратурная газета», а пазней у Ленінградзе выходзіў альманах літаратурны, то і там змясцілі... Так і стала жыць апавяданне, назву якога я, праўда, аднавіў.

Іван Міхайлавіч неяк запаволена-асцярожна пратупаў да стэлажа і ўзяў з палічкі новае, і, як ён сказаў, яшчэ зусім цёпленькае выданне рамана «Амок», паказаў мне кнігу.

— Не вельмі часта, але ж во, бачыце, тады-сяды перавыдаюць..

І зноў неяк непрыкметна, сама па сабе, завязалася гаворка.

— Часам мне даводзіцца чуць... — Іван Міхайлавіч засяродзіўся нечага, нібы збіраўся з думкамі. Я тым часам вярнуў яму кнігу. Ён усміхнуўся, паклаў кнігу на край пісьмовага стала і загаварыў далей: — Так, і раней чуў і цяпер яшчэ ад сяго-таго чую, што творы мае нібыта нейкія прыгодніцкія, што ў іх мала рэальнасці, жыццёвай праўды, а больш фантастыкі... То якраз ўсё гэта далёка не так. У маёй творчасці няма нічога такога ўжо занадта фантастычнага і прыгодніцкага. Як ні дзіўна, а рэалізм заўсёды быў у маім творчым арсенале. Рэ-а-лізм. Мая фантастыка — рэ-а-лістычная, — ён так і вымаўляў па складах. — Прыкладаў гэтаму — колькі хочаш. Вось хоць бы і раман «Амок». Напісаны ж ён выключна на аснове дакументаў і фактычнага матэрыялу. Прыдуманага нічога няма. Яванцы — народ добры, спакойны, але безабаронны. Гэтым і карысталіся доўгія гады галандскія каланізатары — здзекваліся з людзей, як ім хацелася, бязбожна рабавалі іх. І вось, у 1926 годзе гэтыя самыя яванцы паўсталі супраць сваіх заваёўнікаў. Амок — па-іхняму, значыцца, роспач, агульны, калі можна так сказаць, адчай народа, які вымушаны быў стаць на шлях няроўнай барацьбы, бо нічога ўжо яму не заставалася...

Дык вось раман гэты, «Амок». Павінен сказаць, некаторыя дэталі ў ім даволі цікавыя... Мне трэба было, помню, «зрабіць» сход паўстанцаў. А дзе сабраць іх? Падумаў: «А што, калі ў руінах аднаго старажытнага храма правядуць яны свой сход апошні?» Так і зрабіў. І як жа я быў здзіўлены, калі гады праз два, прыкладна, я прачытаў, што акурат каля Сурабаі ў руінах храма адбыўся сход паўстанцаў...

Нашай размове ніхто не замінаў, мо таму яна і зацягнулася.

Я надумаў быў, што пара ўжо збірацца дамоў — гэта ж і так недзе каля дзвюх гадзін гаворым. Але Іван Міхайлавіч, спагадліва зірнуўшы на магнітафон, нечакана прапанаваў:

— Ёсць у мяне сюжэтаў некалькі, але калі я іх сам запішу?.. То, можа, хай гэтая твая тэхніка мудрая занатуе... А то ж баюся, што згубяцца ў памяці.

Я ўключыў магнітафон...

### КАЛІ ЛАЯНКА ГУЧЫЦЬ, ЯК МУЗЫКА

Выйшаў я, значыцца, прагуляцца. А якраз замаразак быў — галалёд, слізка... Вуліца ж гэта, Кіраўская, ціхая, народу там ходзіць мала. І калі хто гаворыць, то голас яго гучыць, як на рацэ... Гулкая вуліца, звонкая!

І вось, я толькі павярнуў на яе, аж бачу — нейкая жанчына нібыта хлопца падымае з тратуара, ды ўсё ніяк не падыме...

Якраз міма іх праходзіць мажны такі мужчына з партфелем — відаць, чыноўнік нейкі абыякавы, бюракрат. Галаву як задраў, так і трымае высока — не паглядзеў нават у бок жанчыны і хлапца гэтага, што ніяк не можа ўстаць. Бачу, ён ужо абмінуў іх...

І тут раптам каля вуха гэтага самага мужчыны, што міма прайшоў, правалясцеў кіёк і так цераблнуўся аб плот, што аж погалас пайшоў, а ўслед гэтаму погаласу паліласся лаянка:

— А ты такі-сякі, гэтакі... — І самымі апошнімі словамі. — Пузан, куркуль! Што ж гэта ты, — не бачыш хіба? Міма ідзеш?! Зямля б цябе не насіла, таўстун!..

З бібліятэкі якраз дзяўчаткі высыпалі. Спыніліся, слухаюць лаянку, і твары іх ззяюць, нібы яны якую чароўную музыку чуюць — прыемную, прыемную.

... То быў, аказваецца, інвалід, які ішоў у бібліятэку, паслізнуўся і ўпаў... А жанчына якраз кінулася памагаць. Абурылася страшэнна і запусціла кійком у пузана з партфелем... І такую лаянку ўсчала, што, хто чуў яе, спыняліся, і яна, лаянка тая, як музыка лашчыла ім слых...

І я так гэта ўсё разумею, так разумею — прыемная лаянка можа быць!

### БЛІЗНЯТКІ

Дзве ўнучачкі ў мяне ёсць, маскоўскія. Яны так прывыклі да таго, што яны блізняткі, што нават калі ўбачылі на вуліцы два аднолькавыя аўтобусы, адразу ж спыталіся:

— Мама, а гэтыя аўтобусы таксама блізняткі?

Добрыя ўнучачкі, кемлівыя. Толькі ж заўсёды яны, калі прачынаюцца, не хочуць адзявацца, упарцяцца чамусьці. Маці і так ля іх, і гэтак — ніяк іх не ўгаварыць. А паспрабуе сама адзяваць — яны тут жа ў слёзы.

Нарэшце маці прыдумала — угаварыла іх, можна сказаць, на спаборніцтва такое, хто хутчэй адзенецца, таму першая прэмія...

Унучачкі, калі даведаліся, што прэмія не абы-якая, а цукеркі «Птушынае малако», адразу ж пагадзіліся з маці на гэта спаборніцтва.

Праўда, з іх спаборнічання нічога не атрымалася — ужо назаўтра яны паспрачаліся:

— Я хачу першай!

— Не хачу, каб яна... Я хачу першай!

Прэміі не атрымала ніводная з іх. І так было тры раніцы аж. На чацвёртую — ціха ў іх пакоі. Маці ведае, што дачушкі прачнуліся ўжо, сняданак гатовы, а яны ўсё яшчэ не падаюць голас. «Каб хоць не захварэлі, — захвалявалася яна. — У чым жа там справа?»

Усё ж не вытрымала — зазірнула да іх у пакой. Бачыць: сядзяць яны абедзьве, ціхія, спакойныя. Адна адзяваецца, а другая сукенку сваю на руках трымае, чакае. І гэтак мірна гутараць між сабою, памяркоўна.

— Сёння мама табе прэмію купіць, — гаворыць гэтая, што трымае сукенку ў руках, — то мы яе напалам падзелім, пароўну...

— Што такое? — здзівілася маці.

— А сёння мая чарга адзявацца першай, — азвалася другая. — А заўтра будзе яе чарга адзявацца першай...

І вось, значыцца, калі маці пачула ўсё гэта, падышла да мяне і кажа:

— Калі б мы, дарослыя, ды дараслі да ўзроўню гэтых самых блізнятак, то і мы маглі б спакойна і правільна вырашаць усе нашы складаныя справы.

### РАДЫЁЧЫННІК

Яму яшчэ і пяці гадоў няма, а ён ужо столькі прафесій мае, што нават дарослы пазайздросціць можа. Ды прафесіі ўсе нялёгкія: лётчык, шафёр, пажарнік, міліцыянер і, канечне, радыёчыннік — майстра, значыцца, па радыё...

Апошнюю гэту сваю прафесію ён страшна любіць і, трэба сказаць, валодае ёй як мае быць. Для бацькоў гэтая яго прафесія — бяда. Як толькі ён становіцца ў ролю радыёчынніка, так у доме адразу ж аўрал пачынаецца. І прыёмнік, і тэлевізар — усё, што можна адкруціць ці зламаць, трэба пільнаваць...

Але ж як ні пільнуй, як ні глядзі, а варта толькі хоць на хвілінку якую адлучыцца — і ўсё абавязкова будзе перакручана, адвінчана або зусім зламана. Калі не ў прыёмніку, то ў тэлевізары, а не ў тэлевізары, то ў электрапрасе ўсе шрубкі павыкручаны і пазакіданы, што і не знойдзеш...

І вось з ім, гэтым самым радыёчыннікам, такая справа была. Маці захацела яго звадзіць у цырк. Ды малых, якім яшчэ няма пяці гадоў, у цырк не пускалі. Маці, канечне, пачала вучыць сына:

— Калі ў цябе спытае цёця, то ты і скажаш ёй, што табе пяць гадоў ужо... Ну і яшчэ з гакам — колькі там тыдняў яшчэ...

Хлопчык, значыцца, пахмурыўся і пытае:

— А навошта? Чаму?

— Трэба, сынок, бо табе ж яшчэ няма пяці гадоў... А тых, каму няма пяці гадоў, у цырк не пускаюць.

— А хіба можна няпраўду казаць?

Маці разгубілася.

— Увогуле... не трэба няпраўду казаць... А сёння шкоды ніякай не будзе, калі скажаш — цябе ж тады ў цырк пусцяць. Не бойся, за гэту няпраўду табе нічога не будзе. — Маці счакала трохі, ды зноў перапытала: — Ну, скажаш цёці так, як я прашу?

Думаў ён, думаў, але так нічога не адказаў.

Нарэшце пайшлі ў цырк. Дарогай ён таксама маўчаў. І ўжо ля цырка раптам пытае ў маці:

— Мама, а пасля таго, як я скажу цёці няпраўду, можна будзе праўду казаць?

## НА МОВЕ МНОГІХ НАРОДАЎ

**Творы Янкі Маўра карыстаюцца вялікай папулярнасцю ў чытачоў. У нашай краіне яны выдаваліся 64 разы агульным тыражом 2035,2 тысячы экземпляраў, у тым ліку ў Беларусі — 50 разоў агульным тыражом 1002,2 тысячы экземпляраў.**

**Раман «Амок» выходзіў 4 разы, аповесць «Сын вады» — 5 разоў, «У краіне райскай птушкі» і «ТВТ» — 6. У двухтомнік пісьменніка, які выдадзены ў 1960 годзе, увайшлі яго лепшыя творы.**

**Творчасць Я. Маўра вядома ў РСФСР, на Украіне, у Малдавіі, Латвіі, Арменіі, Таджыкістане. Друкаваліся творы пісьменніка і за мяжой. Аповесць «Палескія рабінзоны» ў свой час выйшла на румынскай і на кітайскай мовах. Аповесць «Сын вады» выдавалася на нямецкай мове.**

**Л. РАБУШКА,**
**галоўны бібліёграф Кніжнай палаты БССР.**

# ЛЮБІМЫ НАСТАЎНІК

Напярэдадні васьмідзесяцігоддзя з дня нараджэння Янкі Маўра, у 1963 годзе рэдакцыя часопіса «Беларусь» папрасіла мяне напісаць юбілейны артыкул пра нашага старэйшага пісьменніка. Хацелася знайсці нешта новае ў яго біяграфіі, таму я звярнуўся да тых, хто добра ведаў аўтара беларускай рабінзанады, прасіў іх падзяліцца сваімі ўспамінамі. Адказы на мае пісьмы былі цікавыя, але прыйшлі з вялікім спазненнем.

З Масквы прыйшло пісьмо ад І. Барашкі, былога вучня старэйшага пісьменніка. Вось што ён прыгадаў:

«...Мы спаткаліся з Янкам Маўрам у 1926 годзе у выдавецтве «Чырвоная змена», у Мінску, на Камсамольскай вуліцы. Сустрэча была зусім нечаканай. Ведаючы Івана Міхайлавіча з дзіцячых гадоў як аднаго з маіх настаўнікаў, я быў нямала здзіўлены з'яўленнем пажылога чалавека ў нашым шумлівым камсамольскім выдавецтве, дзе я ў тыя гады працаваў у якасці рэдактара часопіса сялянскай моладзі «Малады араты».

— Што прывяло вас, Іван Міхайлавіч, да нас, камсамольцаў?.. — спытаўся я ў свайго былога настаўніка.

— Як, што прывяло? — здзівіўся Іван Міхайлавіч, — хіба ты не ведаеш, што я, на старасці год, запісаўся да вас, маладых, у пісьменнікі...

— Вы?

— Я... Я ж цяпер не Іван Міхайлавіч Фёдараў, а Янка Маўр... Хіба ты не чытаў маіх апавяданняў і аповесцей?..

— Чытаў... — збянтэжана адказаў я, недаверліва пазіраючы на аднаго з нашых любімых настаўнікаў Івана Міхайлавіча Фёдарава. А ён, як і некалі ў класе, стаяў перада мною высокі, стройны, начыста паголены, задумёны, у так мне знаёмых акулярах, з паношаным чорным партфелем у руках...

— Ты заўсёды такі недаверлівы, мой дарагі вучань! — убачыўшы маю збянтэжанасць і здзіўленне на твары, спакойна, як заўсёды, усміхаючыся, прамовіў Іван Міхайлавіч, — раз кажу табе, што я Янка Маўр, то значыць, што Янка Маўр — я...

Прыйшлося згадзіцца...

Мае адносіны да Івана Міхайлавіча на ўсё жыццё засталіся як адносіны вучня да свайго любімага настаўніка. Павага і пашана, любоў і падзяка за веды, перададзеныя ў школе, схаваны глыбока ў маім сэрцы. І яно пачынае мацней біцца заўсёды, калі я ўспамінаю сваіх добрых настаўнікаў. Гэта маё сэрца ўспамінае сваю маладосць, гады пазнання жыцця, свету, людзей...»

У пісьменніка было многа вучняў, якія сталі вучонымі, педагогамі, інжынерамі, дактарамі, паэтамі і празаікамі.

Станіслаў ШУШКЕВІЧ.

# А ПАМЯЦЬ У СЭРЦЫ ЗАСТАЛАСЯ

Было гэта ў 1948 годзе. У Барысаўскім педвучылішчы праводзіўся выпускны вечар. Запрасілі на яго і Янку Маўра. Пісьменнік ахвотна згадзіўся прыехаць. Навучэнцы, выкладчыкі сустрэлі яго з радасцю. Іван Міхайлавіч таксама быў у цудоўным настроі. Ён павіншаваў выпускнікоў з заканчэннем вучобы, сказаў прачулае слова пра настаўнікаў, і выказаў жаданне з'ездзіць у Бытчу, дзе настаўнічаў у 1906 годзе.

Назаўтра раніцой мы сабраліся ў дарогу. Вёска знаходзілася паблізу горада (усяго нейкіх кіламетраў дзесяць ад Барысава) і хутка мы былі на месцы. Іван Міхайлавіч выйшаў з машыны, падышоў да аднаго з дамоў, зазірнуў праз акно.

— У гэтым доме, у тым пакойчыку калісьці жыў...

Падышлі дзве дзяўчынкі. Я. Маўр, узрушаны, з нейкай асаблівай лагоднай усмешкай на твары, падпісаў ім дзве кніжкі «Шлях з цемры». А потым размаўляў, прыгадваў мінулае, жартаваў. Адна з настаўніц запрасіла да сябе ў хату. І тут адбылася таксама цікавая гаворка.

Вестка аб тым, што прыехаў Іван Міхайлавіч, маланкай разнеслася па вёсцы. Неўзабаве з'явіўся на парозе стары чалавек. «Ваш былы вучань», — і назваў сваё прозвішча. Ён моцна абняў Івана Міхайлавіча. Абодва доўга стаялі і выціралі слёзы. Ніхто не хаваў свайго хвалявання.

Калі вярталіся назад, Я. Маўр задумліва сказаў: «Быццам у свежай вадзе выкупаўся. Нырнуў і выплыў памаладзеўшы». Было бачна, што пісьменнік застаўся задаволены гэтай паездкай... Прынесла яна радасць і ўсім нам, хто суправаджаў любімага пісьменніка ў вёску яго маладосці.

Яўген ЗАМЕРФЕЛЬД.

# СЭРЦАМ ДА СЭРЦА, РАДКОМ ДА РАДКА

За заслугі ў галіне мастацкага перакладу твораў беларускіх пісьменнікаў на мовы народаў СССР і вялікую работу па прапагандзе беларускай савецкай літаратуры Указам Прэзідыума Вярхоўнага Савета БССР прысвоена ганаровае званне заслужанага работніка культуры Беларускай ССР:

**Жукаўскасу** Альбінасу Пранавічу — літоўскаму савецкаму пісьменніку;

**Нагнібедзе** Мікалаю Львовічу—украінскаму савецкаму пісьменніку;

**Астроўскаму** Арсенію Георгіевічу — рускаму савецкаму пісьменніку.

Рэдакцыя штотыднёвіка «Літаратура і мастацтва» ад усяго сэрца віншуе шчырых сяброў і прапагандыстаў беларускай літаратуры з прысваеннем ім ганаровых званняў, і жадае новых творчых поспехаў.

Альбінас Жукаўскас.

Мікола Нагнібеда.

Арсеній Астроўскі.

Аркадзь КУЛЯШОЎ

## СЯБРОЎСКАЕ ВІНШАВАННЕ

Мікола Нагнібеда — наш даўні сябра. Упершыню яго цікавасць да беларускай паэзіі я адчуў амаль сорак год назад. Тады мы былі слухачамі ўсесаюзных курсаў маладых пісьменнікаў у Малееўцы. Там пазнаёміліся і пасябравалі на ўсё жыццё.

Колькі з тых дзён адбылося незабыўных сустрэч, размоў, у часе якіх чыталіся творы ўкраінскіх і беларускіх паэтаў. Размовы тыя не былі марныя, яны нараджалі настойлівае жаданне знаёміць беларускага і ўкраінскага чытача з лепшымі здабыткамі нашых культур.

Многа і плённа працуе Мікола Нагнібеда ў справе папулярызацыі беларускай паэзіі на Украіне. Выданню кожнай паэтычнай беларускай кнігі ён аддае каваляк свайго шчодрага сэрца. Але гэта толькі частка зробленага ім. Мы не менш удзячны выдатнаму ўкраінскаму паэту і сябру за яго творы, натхнёныя жыццём беларускага народа, яго гераічнымі подзвігамі ў часе Айчыннай вайны. Нядаўна Мікола Нагнібеда напісаў паэму пра Хатынь. Перакладзеная на рускую і беларускую мовы, яна знайшла прыхільны, шырокі водгук у савецкага чытача.

Віншуючы паэта з ганаровым званнем заслужанага дзеяча культуры Беларускай ССР, мне хочацца сказаць: жыві, дарагі Мікола, доўга, працуй і ствараў з тым жа маладым натхненнем і гарэннем, з той жа глыбінёй думкі, якіх ты дасягнуў!

Мікола ТКАЧОЎ

## НОВЫХ ЗДАБЫТКАЎ!

Я шчыра ўзрадаваны, што добрым сябрам беларускай літаратуры — Арсенію Астроўскаму, Альбінасу Жукаўскасу і Міколу Нагнібядзе ўрад нашай рэспублікі надаў ганаровае званне заслужанага работніка культуры БССР. Гэта высокая ацэнка шматгадовай плённай працы, з чым сёння і хочацца сардэчна павіншаваць дарагіх сяброў.

З 1947 года займаецца перакладамі з беларускай мовы ленінградскі пісьменнік Арсеній Георгіевіч Астроўскі. Гэту дзейнасць ён распачаў, маючы багатыя веды і вопыт навуковай і рэдактарскай працы, з'яўляючыся аўтарам шматлікіх перакладаў твораў класічнай і савецкай украінскай літаратуры. Цудоўны знаўца славянскіх моў, чалавек з тонкім мастацкім густам, Арсеній Астроўскі пасля глыбокага знаёмства з беларускай літаратурай назаўжды ўлюбіўся ў яе, зрабіўся натхнёным яе перакладчыкам і прапагандыстам сярод рускіх чытачоў. Яго пяру належаць пераклады апавяданняў і аповесцей Я. Коласа і К. Чорнага, Ц. Гартнага і Я. Скрыгана, п'ес К. Крапівы і В. Віткі, паэмы П. Труса «Дзесяты падмурак» і вершаў многіх сучасных паэтаў. Асабліва цесная творчая садружнасць у перакладчыка з І. Шамякіным і Я. Брылём. Ён пераклаў на рускую мову амаль усе іх творы.

У перакладчыцкай працы Арсенія Астроўскага—творы розных жанраў, розных стылявых напрамкаў. Перакладчык заўсёды чуллівы да гэтых асаблівасцей і як найпаўней даносіць да рускага чытача ўсе адметныя рысы і якасці арыгінала.

Поруч з непасрэднай творчай працай Арсеній Астроўскі шмат займаецца арганізацыйнай дзейнасцю, скіраванай на пашырэнне і паглыбленне дружбы беларускай і рускай літаратур. Ён з'яўляецца ініцыятарам шэрагу цікавых выданняў, многіх літаратурных вечароў, разнастайных культурных мерапрыемстваў.

Дзякуй вам, Арсеній Георгіевіч, за ўсё, што зроблена па прапагандзе беларускай літаратуры. Жадаем вам новых плённых здабыткаў у творчай і грамадскай дзейнасці. Сонечнага вясновага вам настрою і натхнення!

Альбінас ЖУКАЎСКАС

## АДКАЗНАСЦЬ

*Ужо не помню, хто, калі і дзе*
*Назваў мяне публічна —*
*Чалавекам.*
*І вымушан адказваць я цяпер*
*За ўсё —*
*За сталае Зямлі вярчэнне,*
*За змену дня і ночы,*
*За ўсе цыклоны*
*і антыцыклоны,*
*За буры ўсе, і смерчы,*
*і тайфуны,*
*За спячыя вулканы і няспячыя,*
*За ядзерныя выбухі,*
*За нетраў разбурэнне,*
*за паветра,*
*Атручанае,*
*За канвенцыйнае*
*і не канвенцыйнае ўзбраенне,*
*За смех дзяцей, за рост*
*раслін,—наогул*
*За чалавецтва,*
*За жыццё і смерць яго.*

*Я схопліваюся часта апоўначы*
*І легкадумнасць ўласную*
*кляну: навошта*
*Было мне браць адказнасці так*
*многа!*
*І тут жа ўсё раптоўна*
*разумею:*
*Не выкруціцца ўжо,*
*не адмахнуцца,*
*Назваўся Чалавекам —*
*і адказвай!*
*Быць кожную хвіліну, быць*
*навекі*
*Стыхіям безадказным —*
*перашкодай*
*І браць адказных нелюдзяў —*
*на прывязь!*

Пераклала Н. ТАРАС.

Аляксандр КАПУСЦІН



# ПЕРШАЕ ЗАДАННЕ

АПАВЯДАННЕ

У НЕПРАДБАЧАНУЮ, непрыемную камандзіроўку ехаў Васіль Гальмучык. За нядоўгі час працы ў рэдакцыі гэта было, бадай што, першае такое важнае заданне. Плылі насустрач лясы і пералескі, палі, дзе там-сям па рыжым іржышчы пралеглі першыя разоры, мільгалі пакручастыя сінія рачулкі сярод альшэўніку і лазняку. Гальмучык пазіраў у акно, слухаў, як тахкаюць колы па рэйках і ўспамінаў размову з рэдактарам.

Прысадзісты, каржакаваты рэдактар сядзеў за сталом, прыгнуўшы вялікую паголеную галаву, нібы збіраўся бадацца. Гаварыў ён сурова і сярдзіта. Калі ўсё так, як у тым пісьме напісана, дык гэта ж, можна сказаць, надзвычайнае здарэнне: чалавека трэба пакараць, а яго хваляць. На ўсю вобласць, у газеце...

Вагон пралескатаў коламі па невялічкаму мастку. Гэты ляскат быццам напомніў нешта Васілю. Гальмучык міжвольна пацягнуўся рукой да чорнай папкі, што ляжала на лаўцы ў яго за спіной, і тады зразумеў: яму даўно карцела зноў пачытаць пісьмо, але жаданне гэтае ўвесь час быццам прытармажвалася чымсьці.

Пісьмо было злоснае і задзірыстае. Рахункавод калгаса Харытон Міцькавец не вельмі падбіраў словы. Ляснік Дубейка — маталыга. Правільна, у яго абходзе лес дагледжаны; і дзялянкі ўпарадкаваны, і маладняк прарэджаны, і вогнішча нідзе ў сухім месцы не ўбачыш. Стараецца Дубейка, нічога не скажаш. Але ж дбае ён таму, што лес любіць, як ліса курэй. А нішчыць яго не так, каб трэскі ва ўсе бакі ляцелі, акуратна: дрэва — пад корань, галлё — у лоўж, потым бензіну ліне і запалку туды... От, не лічыўся б ён добрым гаспадаром, дык ці давяралі б яму ў лясніцтве, ці не заўважылі б дым з тых кастроў? А так — гадамі ніякай рэвізіі. І карэспандэнт, як той заяц, што пад святло фар трапіў: па каляіне прыг-скок, прыг-скок... «Лес — гэта прызванне Дубейкі, гэта радасць яго клапатлівай душы...» Абы пісаць...

Гальмучык доўга трымаў вырваныя з вучнёўскага сшытка аркушы. Не можа быць, каб у аддзеле пісьмаў зрабілі прамашку. Там добра ведаюць сваіх аўтараў — чые допісы можна друкаваць, як кажуць, з ходу, а чые варта правяраць. Ён пазіраў на роўныя прыгожа выведзеныя літары, падумаў: «Такім почыркам толькі падзякі пісаць, а ён кляўзы строчыць. Бываюць жа яшчэ зласліўцы, якія з ветру вяроўкі ўюць — смак у гэтым чуюць. Ну пабачым, праверым...».

2

Нізкі басавіты голас Міцькаўца гучаў нетаропка.

— Прачытаў я, значыцца, тую муць пра Дубейку і вы ведаеце, таварыш прадстаўнік рэдакцыі, быццам хто брудцай анучай па твары пэцнуў...

Васіль спакойна і ўважліва пазіраў на рахункавода, паволі крагаў пальцам невялікія чорныя вусікі, якія стасаваліся да яго прадаўгаватага твару, надаючы яму сур'ёзны засяроджаны выгляд.

Яны сядзелі ля стала адзін насупраць другога ў кабінеце старшыні калгаса, невялікім утульным пакойчыку з дыяграмамі на сцяне. Гальмучык намагаўся разгледзець за тоўстым шклом акуляраў вочы рахункавода. Міцькавец нібы здагадаўся, чаго ён хоча. Змоўк, зняў акуляры, прыжмурыўся.

— Вы скончылі, Харытон Міхайлавіч? Цяпер я скажу сваё. От вы сцвярджаеце, што Дубейка хцівец. А дзе факты? Пацвярджэнне дзе?

— Яны, канечне, доле, як тыя акуркі, не валяюцца, яны схаваныя.

— Няма фактаў? От бачыце, а вы так лёгка агаворваеце чалавека. Недаравальная, таварыш Міцькавец, такая кажучы мякка, несур'ёзнасць, — Гальмучык, пакуль гаварыў гэтыя словы, стукаў пальцам па краі стала, быццам рабіў на ім якіясьці зарубкі. — За такія абвяржэнні часам і таго... фельетонам не грэх.

Рахункавод зноў насунуў акуляры на кручкаваты нос, уважліва змераў Гальмучыка працяглым позіркам. Устаў.

— То, бадай, нам пра гэта і гаварыць больш няма чаго, калі мяне... фельетонам.

Ён рэзка павярнуўся і выйшаў.

«Бач, порсткі які, нічога яму не скажы», — падумаў Васіль, а сам адчуў: нейкія няясныя трывогі апанавалі сэрца. Каб супакоіцца, развеяць іх, ён імкнуўся думаць пра Міцькаўца нядобра і злосна: адпеты, відаць, задзіра і сябелюбец гэты шукальнік праўды.

3

Пад вечар разнягодзілася. Вялікая сіняя хмара, што напаўзла з поўдня, лінула густым дробным дажджом.

За дзвярыма канторы сярод узбуджаных галасоў сярдзіта ракатаў бас Міцькаўца. Рахункавод камусьці даводзіў, што гаручае перарасходавана, і ён не спіша гэты перарасход. «І тут ён таксама бярэ загрудкі, усе нядбайнікі, адзін ён такі ўжо руплівец, — пазларадніча Васіль. — Гуцэвіч, відаць, правільна пра яго сказаў».

Успамін пра селькора Сцяпана Гуцэвіча адразу павярнуў Гальмучыкавы думкі: а ці правільна ён напісаў у сваёй заметцы пра лесніка Дубейку? Цяпер, калі во Міцькавец так заартачыўся, селькор толькі паціскае плячыма: пра гэта нічога не чуў... Дык навошта ж браўся за пяро, калі не разведаў усё, што трэба было, пра чалавека. Нядаўняя размова са Сцяпанам здавалася зараз Васілю ў чымсьці абураючай.

Ён адразу адшукаў агранома Гуцэвіча на таку, дзе ачышчалася насенне Паздароўкаўся, не трацячы марна часу, сказаў, чаго прыехаў і прапанаваў пагутарыць. Гуцэвіч узмаліўся: крыху пасля, спачатку ён адбярэ насенне на пробу. Гальмучык адышоў у канец току, сеў на невялікую лавачку, акуратна змайстраваную дбайнай рукою, міжвольна стаў назіраць за аграномам.

Невялікі, рухавы, Сцяпан, здавалася, забыўся на яго, борзда тупаў ад машыны да машыны. Падыдзе, пагутарыць з кладаўшчыцай, загарэлай дзяўчынай з аслоненым светлаю касынкай тварам, паглядзіць пшаніцу і далей пайшоў. Ля апошняй машыны, ён прыгнуўся, падставіў далонь з растапыранымі пальцамі пад струмень залацістага зерня. Доўга стаяў так, потым, мусіць, адчуў Васілёў пільны позірк, азірнуўся. Сказаў нешта кладаўшчыцы, пачакаў, пакуль яна запісала ў блакнот.

Сцяпан падышоў, сеў побач, паклаў нагу на нагу. І тады адразу перамяніўся, стаў хмуры і задумлівы, нібы імкнуўся зразумець нейкую вінаватасць у сабе.

Загаварыў. Ён нічога не ведаў благога, кожны раз бачыць, як дзядзька Дубейка ранічкай шыбуе ў свой абход. У бары яшчэ птушкі не папрачыналіся, а ляснік ужо там. У абходзе ў яго парадак, як у святліцы. І чалавек ён — не раўня гэтаму калючаму настырнаму рахункаводу: ніколі ні з кім не сварыцца, толькі лагодна пасміхаецца і жартуе...

Васіль не разумеў: ці то з задаволенасцю ці найбольш з асцярогай слухаў аграномавы словы. Адно толькі добра ўсведамлялася яму: ва ўсёй гэтай гісторыі ён сам у чымсьці не праў. Не давала спакою думка: відаць, не так ён, як трэба, размаўляў сёння з Міцькаўцом.

Яму зрабілася ніякавата — ведаў, што гэтыя сумненні яшчэ не раз вернуцца да яго і будуць трывожыць сэрца. Тады яму падумалася, што калі ён зноў не сустрэнецца з рахункаводам, адбудзецца штосьці нядобрае.

...У суседнім пакоі пацішэла. Міцькавец пераступіў парог, бліснуў на Гальмучыка акулярамі з-пад сівых калматых броваў і стомлена плюхнуўся ў крэсла.

— Даруйце, што прымусіў чакаць, — прабурчэў незадаволена. — Самі бачыце — справы.

Васілю карцела кальнуць: «Нічога сабе справы — з людзьмі сварыцца». Але замест гэтага ён лагодліва адказаў:

— Справы, канечне, у першую чаргу, час жа ў нас не свой, а дзяржаўны.

Яны, як і раніцай, сядзелі ў кабінеце старшыні, толькі цяпер, самі таго не заўважыўшы, памяняліся месцамі.

— Дык, значыць, пытаеце, факты дзе? — загаварыў Міцькавец прыцішана, у роздуме. — У лясніцтве яны. Надоечы я пра ўсё, пра што сам ад добрых людзей даведаўся, расказаў там.

— Чаму ж вы нам пра іх не паведамілі?

— Вы так гаворыце, быццам загадзя апавясцілі мяне, што збіраецеся хваліць Дубейку. Дык можа б, перш чым друкаваць той артыкул, папыталі ў людзей, што за гаспадар у лесе гэты вясёлы ляснік, а? Ці ласы ён на магарычы, папыталі б. Пахваліць, не разабраўшыся, лёгка, от праўду, калі яшчэ яе з боязі за свае прамашкі крыўдаю хочуць зрабіць, цяжка знайсці.

— Што вы маеце на ўвазе? — незалюбіў Васіль. Ён нядобра нацэліў на рахункавода вострыя вочы, але той спакойна вытрымаў яго позірк.

— Якраз тое, пра што, мусіць, вы, таварыш прадстаўнік рэдакцыі, падумалі.

Гальмучык маўчаў, трохі збянтэжаны, збіты спанталыку гэтым нечаканым паваротам размовы. Спадзяваўся разгадку таго таямніча-важнага, што было ў словах Міцькаўца, знайсці ў яго выразе, аднак на маршчыністым паголеным твары застыла халодная непрагляднасць.

— Дапусцім, таварыш Міцькавец, вы маеце рацыю: мы схібілі. Дык вы ж таксама не гарачыцеся, не вельмі згушчайце фарбы. «Праўду знайсці цяжка... Крыўдаю яе хочуць зрабіць»... Якія ў вас падставы, каб так папракаць?

Міцькавец пазіраў на Гальмучыка з цікавасцю і чаканнем.

— От вы ўсіх ганіце: той драўніну цішком за гарэлку збывае, гэты перарасходаваў гаручае і хоча, каб яго незаконна спісалі... Паслухаць, дык у вас тут адны махляры...

Гальмучык неспакойна паварушыўся ў крэсле, хацеў устаць, прайсціся па пакоі, ды адчуў, што ўсё цела яго быццам налілося цяжарам. Ён не ведаў, як павесці размову далей, толькі неспадзявана адчуў якоесьці палахлівае, прытоенае жаданне ўлагодзіць, заспакоіць неяк Міцькаўца.

— Той, хто ўмее слухаць, і ад мяне можа пачуць пра добрых людзей, — няспешна адказаў рахункавод.

— Раскажыце — паслухаю. Можна ж пра харошага чалавека і напісаць, калі на тое пайшло. — Гэтыя словы Гальмучык нечакана для сябе самога сказаў з дыпламатычным намёкам: маўляў, давай паставім кропку на гісторыі з Дубейкам, а зоймемся нечым цікавейшым. Прамовіў ён іх, падладжваючыся пад вясёлы тон, але, насуперак спадзяванню, замест хоць якога заспакаення яны чамусьці прынеслі яшчэ большы неспакой. Ён усвядоміў гэта, заціскаючы ў сабе прыкрае адчуванне сораму.

Міцькавец падняўся, адсунуў крэсла. Раздумна падышоў да акна, адчыніў фортку.

Далёка, на другім беразе ракі, у сіняй смузе набухаў цемрывам абмыты дажджом бор. Водар хваёвай жывіцы змешваўся з водарам вільготнага паветра і тугімі хвалямі струменіў у вёску.

Заклаўшы рукі за спіну, Міцькавец пастаяў, павярнуўся да Васіля.

— Дык давайце, таварыш прадстаўнік рэдакцыі, па сутнасці, значыцца. — Непрыязныя ноткі прабіваліся ў яго прыглушаным голасе. — Закончым нашу ранейшую размову — пра Дубейку...

Гальмучык паправіў гальштук, стаў разгладжваць яго шырокі канец, што звісаў аж да белага моднага рэменя. Прыцяўся позіркам да нехлямяжнай постаці. У душы варухнулася разгубленасць: от ён цяпер па-харошаму, а яна, дабрата гэтая яго, чамусьці, здаецца, яшчэ больш надала Міцькаўцу рашучасці. У пачуццях Гальмучыка побач з прытоенай непрыязню да рахункавода міжвольна варухнулася неўсвядомленая крыўда на самога сябе. Ён разгладжваў гальштук, пазіраў на Міцькаўца так, быццам намагаўся разглядзець у ім тое незразумелае, узрушліва-загадкавае, што неадольна прыцягвала цяпер да сябе яго ўвагу.

4

З падножкі вагона Гальмучык азірнуўся на ўтульны пасёлак, што весела свяціўся агнямі ў вокнах дамоў, і ступіў у тамбур. Людзі, мякка топаючы па дывановай дарожцы, хадзілі па калідоры, напаўнялі вагон гаманой і шумам.

Васіль увайшоў у сваё купэ. Там яшчэ нікога не было. Ён паклаў на столік папку, сеў на лаўку, прыхінуўся плячыма да гладкай бліштастай сцяны.

У купэ зазірнуў малады статны хлопец з кучаравым чубам.

— Добры вечар, — павітаўся ён з Васілём. — Каюта не запоўнена? — Не чакаючы адказу, павярнуўся, крыкнуў у калідор:

— Капітаны, сюды, нашы месцы во ў гэтым люксе!

Голас у хлопца быў мяккі, прыемны.

У дзвярах з'явіліся яшчэ двое, па ўсяму відаць — студэнты.

Нізенькі, таўсматы, грэбліва наморшчыўшы смяшлівы вяснушчаты нос, агледзеў купэ. Ён пазіраў як чалавек, якому тут жыць. І Васіль, чамусьці, таксама паглядзеў па баках.

— Я — на верхатуру, бліжэй да сонца, — сказаў таўсматы. — Пайшлі пакуль пакурым.

Гальмучык правёў іх позіркам і зноў аддаўся сваім думкам. От ён едзе дадому, а ці ўсё зрабіў тут, што трэба было?

Ён вярнуўся да падзей дня. Разважаў, аналізаваў, спрачаўся сам з сабой. Не сустрэўся з леснікам?.. Але ж яго няма зараз дома, паехаў некуды. Правільна, і ў лясніцтве не пагутарыў. Дык жа ён, можа, і не абавязаны шукаць там нейкія факты. Урэшце, даказваць павінен той, хто сцвярджае — у законе запісана. От ты, паважаны таварыш Міцькавец, і патурбуйся наконт доказаў. Збіраць іх за цябе я не буду і на слова паверыць табе не магу... Так і скажу рэдактару: не пацвердзілася...

Насупраць купэ ў калідоры каля акна ажыўлена размаўлялі «капітаны», якія, мабыць, яшчэ нават і мора не бачылі. Гэтая хлапечая гамана часам неўпрыкмет прыцягвала яго ўвагу, блытала ягоныя думкі.

— Ты, Паўлік, не будзь такі — не цадзі скрозь зубы тое-сёе: у вочы гавары, што думаеш. Любімец дэкана і дзяўчат — а сам туды-сюды, і нашым, і вашым.

Гальмучык недарэчна падумаў: «Хто гэта сказаў — ці не той таўсматы?» Скоса, назіркам паглядзеў у калідор. На хвіліну як бы застыў у нейкай напружанай увазе. Падалося — пачуў голас Міцькаўца: «Чаго ты так вушы натапырыў на хлапечую гаману? Не цябе датычыцца — дык і не строй свае кепікі. Сядзіш у вагоне — ну і сядзі сабе, едзь, дакуль білет узяў. Не прыслухоўвайся да хлапечых размоў... Ты і сам такі ж... зялёны... І жывеш лёгка, і да людскога ставішся лёгка. Ну, чаго ўставіўся на мяне, вочы вылупіўшы? Што, не праўду я сказаў?...».

Васіль схамянуўся ад гэтых разважанняў і заўважыў, што газеты, якія купіў у вакзальным кіёску, чамусьці складвае ў папку.

Састаў тарганууся,—прычапілі паравоз. Гальмучыку падалося, што вось так тарганулася і ў яго душы нейкая ўзрушлівая надзея.

Ён раптам ускочыў з лаўкі і, штурхаючы тых, што стаялі ў калідоры каля вокнаў, заспяшаўся да выхаду.

# МАШТАБНАСЦЬ ПРОЗЫ

ВЫЙШЛА Ў СВЕТ новае даследаванне А. Адамовіча пра К. Чорнага. Пра што, пра каго б ні пісаў гэты аўтар, ён заўсёды звяртаўся да вопыту любімага пісьменніка, каб хоць у нейкай ступені суаднесці яго з сучаснай літаратурай, вымераць ім яе дасягненні.

Цікавасць вучонага да творчасці таго ці іншага пісьменніка на працягу доўгіх год — зусім заканамерная з'ява, толькі самі сабой напрошваюцца пытанні: чым новая праца адрозніваецца ад папярэдніх, з якога пункту гледжання аналізуецца цяпер творчасць К. Чорнага?

Каб наша меркаванне пра рэцэнзуемую кнігу было больш пераканаўчым, зробім невялікае адступленне. Першачарговая задача беларускага літаратуразнаўства ў пасляваенны час заключалася ў прынцыповай, навуковай ацэнцы важнейшых з'яў гісторыі нацыянальнай літаратуры.

Няма патрэбы даваць ацэнку дасягненням сучасных даследчыкаў. Параўнайце іх артыкулы і кнігі з тым, што пісалася пра Купалу, Коласа, Багдановіча, Дуніна-Марцінкевіча, Чорнага, Гарэцкага, Дубоўку і іншых у даваенны час, і вы самі пераканаецеся, у якой ступені яны справіліся з такой важнай і адказнай задачай.

І ўсё ж гэта быў толькі першы, хоць і неабходны крок. У далейшым задача ўскладнілася. Неабходна было раскрыць грамадскую і эстэтычную сутнасць роднай літаратуры, паказаць яе месца, ролю і значэнне ў агульным працэсе сусветнай літаратуры.

Было б памылкова сцвярджаць, нібыта да апошняга часу ў гэтым напрамку нічога не рабілася. Рабілася, і нямала. Можна прыгадаць цікавыя і змястоўныя працы, у якіх беларуская літаратура супастаўлялася з рускай, украінскай і польскай, узнімалася і ў той ці іншай ступені вырашалася праблема традыцый і наватарства. Варта, аднак, агаварыцца, што звычайна вялася гутарка ў сцвярджальным плане аб наследаванні пісьменнікам лепшых традыцый сваіх папярэднікаў і зусім не раскрывалася, у чым сутнасць гэтага наследавання, у якой меры той або іншы беларускі пісьменнік, наследуючы традыцыі сваіх папярэднікаў, адначасова выступае як арыгінальны мастак і мысліцель.

А. Адамовіч паставіў перад сабой мэту разглядзець спадчыну беларускага празаіка ў кантэксце рускай і еўрапейскай літаратуры, галоўным чынам у святле вопыту Дастаеўскага.

Сказанае можа насцярожыць, бо вядома, што яшчэ нядаўна той-сёй з даследчыкаў з лёгкасцю незвычайнай усё станоўчае ў творчасці К. Чорнага тлумачыў уплывам Талстога, а адмоўнае — уплывам Дастаеўскага.

Аўтар рэцэнзуемай кнігі— даследчык сур'ёзны, удумлівы і эрудзіраваны. У яго кнізе вядзецца гутарка пра тое, што сапраўды шырокая маштабнасць творчасці К. Чорнага заключаецца ў яе гістарызме, філасафічнасці і перш за ўсё «ў тым новым пачуцці, з якім беларуская літаратура пачынала ўсё больш смела весці размову «з цэлым светам».

Варта адзначыць, што з першых старонак кнігі размова пра вучобу К. Чорнага ў класікаў і наследаванне іх традыцый набывае не той напрамак, да якога мы прызвычаіліся, і, што граха таіць, у пэўнай ступені самі яго вызначалі.

А. Адамовіч звярнуў увагу якраз на тыя моманты, якія абмінуты былі ў папярэдніх працах аб К. Чорным. А іменна на тое, што вучоба К. Чорнага ў класікаў была абумоўлена неспатольнай прагай стаць упоравень з імі, стварыць літаратуру, вартую ўвагі не толькі ўласнага, але і іншых народаў. Адсюль яснае ўсведамленне, што размова «з цэлым светам» пра свой народ пасля Шэкспіра, Бальзака, Пушкіна, Талстога, Шаўчэнкі, Горкага можа быць сур'ёзнай і цікавай тады, калі гэта адначасова будзе і словам пра ўсё чалавецтва. Сіла і харавство гэтага слова павінна быць у ім самім, у той глебе, на якой яно вырастае, у творчым пераламленні яркага прамяністага агню, што ідзе ад літаратур іншых народаў і ўвасабляецца намі ў шматзначныя па сэнсу словы «вопыт» і «традыцыі».

Раздзелы «Коласаўскі псіхалагізм», «Кардыяграма чалавечай душы», «Мысленне характарамі, тыпамі, гісторыяй», «Палемічна-філасофскі «другі» план у творах К. Чорнага», як, дарэчы, і астатнія, вельмі цікавыя пранікнёнасцю і глыбінёй літаратуразнаўчых назіранняў, свежасцю выкладу, грамадскай значнасцю філасофскіх разважанняў аўтара.

Хочацца звярнуць увагу на адзін вельмі важны аспект гэтай працы. Вылучаючы праблему «Кузьма Чорны і Дастаеўскі», А. Адамовіч імкнецца вырашыць яе ва ўсёй складанасці і разнастайнасці, з улікам дыстанцыі часу паміж двума вялікімі мастакамі, а галоўнае, з улікам прынцыповай адметнасці іх ідэалагічных уяўленняў.

К. Чорны настойліва і ўпарта вучыўся ў Дастаеўскага—яго прыцягвала перш за ўсё глыбокае пранікненне ў псіхалогію асобы, роздум над лёсам чалавецтва. Шукаючы ў народных глыбінях «тую плынь, што хай і не бачна зверху, але ўсё роўна злучана з усімі морамі і акіянамі чалавецтва», беларускі празаік звяртаўся да свайго вялікага папярэдніка. Тым самым «праз паглыбленне ў жыццё, у яго сацыяльную і нацыянальную стыхію, — падкрэслівае даследчык, — праз творчую вучобу ў класікаў К. Чорны наблізіў беларускую прозу да выдатных узораў сусветнай класічнай прозы».

З гэтага ўжо відаць, што падыход А. Адамовіча да вырашэння такой важнай і кардынальнай праблемы ў эстэтыцы сацыялістычнага рэалізму, як праблема традыцый і наватарства, не мае нічога агульнага з разуменнем яе як механічнага перанясення вопыту з адной нацыянальнай глебы на другую.

Сапраўдны мастак — перад усім творца. Ідучы за вялікімі папярэднікамі, становячыся побач з імі, ён застаецца самім сабой, глядзіць сваімі вачамі на свет, думае і адчувае па-свойму.

Паказаць гэта з усёй відавочнасцю і доказнасцю і складае задачу даследавання. Але адна справа вызначыць мэту і зусім іншае — вырашыць яе. З пазіцый учарашняга разумення творчасці Чорнага і тым больш Дастаеўскага вырашэнне праблемы ў такім плане было проста немагчыма. Можна было б сказаць, што беларускі літаратуразнаўца ўзняўся да сучаснага стану навукі пра Дастаеўскага, але гэта будзе не зусім дакладна. Больш правільна, ён стаў упоравень з сучаснымі рускімі даследчыкамі ў разуменні і тлумачэнні творчасці геніяльнага мастака слова. Толькі дзякуючы гэтаму яму ўдалося раскрыць вельмі цікавы працэс станаўлення таленту Чорнага, паказаць, як ён, ідучы за Дастаеўскім, адштурхоўваўся ад яго, наследуючы вопыт і традыцыі настаўніка, горача з ім палемізаваў, засвойваючы вялікія гуманістычныя ідэалы, адкідаў усё тое адмоўнае ў ідэалагічных уяўленнях свайго куміра, што было варожа яму як пісьменніку новай сацыялістычнай эпохі.

«Падсвечванне» творчасці К. Чорнага вопытам Дастаеўскага дало даследчыку магчымасць раскрыць арыгінальнасць і веліч беларускага пісьменніка.

Кніга «Маштабнасць прозы» з'явіцца той прыкметнай вяхой, якая вызначае новы этап у развіцці нашага літаратуразнаўства. Вывучэнне спадчыны Я. Купалы, Я. Коласа, М. Багдановіча, М. Гарэцкага, творчасці нашых сучасных мастакоў слова ў такім параўнаўчым плане дасць нам вельмі многае ў асэнсаванні ўласных літаратурных скарбаў.

**Ю. ПШЫРКОЎ.**

Алесь Адамовіч «Маштабнасць прозы. Урокі творчасці Кузьмы Чорнага». Мінск, «Навука і тэхніка», 1972.

# Мужанне Барыса Алексіевіча

НЯМА ПАТРЭБЫ пералічваць кнігі Аляксандра Міронава. Творчасць гэтага пісьменніка вельмі добра вядома сёння не толькі беларускім чытачам, але і далёка за межамі рэспублікі. Апавяданні, аповесці, раманы аўтара раскрываюць характары савецкіх людзей, паказваюць нашага сучасніка чалавекам валявым, мужным, высакародным, які бязмежна любіць сваю сацыялістычную Радзіму. Не так даўно А. Міронаў закончыў працу над аповесцю «Праз тысячу смярцей».

Своеасаблівым эпіграфам да твора гучаць словы аўтара: «На Слепянском кладбище в Минске есть могила моряка, над которой высится строгое надгробие, высеченное из белого, как белые балтийские ночи, мрамора. У подножья надгробия всего одна фраза: «Я любил вас, люди, и отдал вам всё, что мог».

Памяці нашага земляка-марака і прысвячае аповесць пісьменнік. Значыць, ён па-ранейшаму застаўся верным сваёй тэме — тэме мора. Сапраўды, хоць дзеянне твора ў большасці выпадкаў разгортваецца не на марскіх прасторах, але героі жывуць морам. Незвычайнае, складанае, поўнае цяжкіх выпрабаванняў такое жыццё. Ідзе вайна з фашызмам. Горад Леніна — у варожай блакадзе. Мажліва, у гэтыя трывожныя дні беларускі хлопец Барыс Алексіевіч, былы начальнік канструктарскага бюро аднаго з важнейшых ленінградскіх заводаў, змяняе сваю мірную прафесію на ваенную. Курсы камандзірскага саставу, на якіх вучыцца Алексіевіч, рыхтуюць ваенныя кадры для арміі.

Дакументальнасць прысутнічае ў творы. Прыгадваецца, дарэчы, адказ лаўрэата Ленінскай прэміі Сяргея Смірнова на анкету часопіса «Вопросы литературы» (№ 9, 1966) аб тым, якім павінен быць твор дакументальнага жанру: «Галоўным абавязкам аўтара мастацка-дакументальнага твора з'яўляецца вернасць асноўным, кардынальным фактам, аб якіх ідзе размова, пры магчымасці свабоднага руху ўнутры рамак, якія ствараюць гэтыя галоўнымі фактамі». Патрабаванні строгія, але яны дазваляюць аўтару і пэўную свабоду... У прыватнасці, магчымасць тых ці іншых сюжэтных хадоў, якія яшчэ лепш дапамогуць раскрыць характар асноўнага героя.

Што тычыцца А. Міронава, дык ён, на нашу думку, добра справіўся з пастаўленай перад сабой задачай. Ідучы ад мастацкага факта да біяграфіі свайго героя, ён ахоплівае ў аповесці значны прамежак часу: вайна, пасляваенныя гады, паказвае, як у гэтых абставінах фарміруюцца, загартоўваюцца людскія характары.

Аповесць успрымаецца, як своеасаблівы летапіс жыцця пакалення, якое прыняло на свае плечы асноўны цяжар вайны (маюцца на ўвазе тыя, каму ў гэты час было пад трыццаць). Барыс Алексіевіч, як чалавек, як малады вучоны, а потым і ваенны спецыяліст, таксама праходзіць гэтымі нялёгкімі дарогамі.

Праўда, у творы амаль не чуваць варожых стрэлаў, але вайна пастаянна напамінае аб сабе. Гінуць людзі, якія не змаглі разгадаць «сакрэты» фашысцкіх мін, людзі, што не здолелі перахітрыць свайго праціўніка. Смерць іх яшчэ больш крыўдная, яна заўсёды нечаканая: «Ни корабль в море, ни танк при прорыве вражеской обороны, ни идущий в атаку солдат не знает, где и когда подстережет его мина. Месяцы будет подстерегать, годы. И даже после войны эта подлейшая из смертей будет косить пахарей на колхозных полях, грибников в солнечном лесу, землекопов в возрождающихся городах, команды и пассажиров морских и речных судов. Как же бороться с ней?»

Гэтае пытанне паўстае перад Алексіевічам з усёй сур'ёзнасцю. І справа не толькі ў тым, што работа тут небяспечная і рызыкоўная. Герой твора — перш за ўсё салдат, які гатовы ісці выконваць загад. Але як выконваць? У тэарэтычнай лабараторыі, куды накіравалі Алексіевіча пасля заканчэння камандзірскіх курсаў, лічаць так: мы — тэарэтыкі, мы распрацоўваем і дасылаем інструкцыі па размініраванню, само ж размініраванне праводзяць іншыя, і як гэта яны робяць — іх справа. Начальнік лабараторыі палкоўнік Воранаў глядзіць таксама аднабакова: «Мне не мёртвые герои, а живые специалисты нужны».

Зрэшты, можна зразумець і Воранава: для яго кожны чалавек, тым больш тэарэтычна падрыхтаваны спецыяліст (а Алексіевіч — малады вучоны), на ўліку. Ён не хоча рызыкаваць людзьмі. Але ж менш за ўсё аб сабе думае і Алексіевіч. Для яго важней не прытрымлівацца нейкіх там інструкцый, а рабіць так, як загадвае сумленне. Вось чаму зразумела яго імкненне самому дакапацца да сутнасці ісціны, сваімі рукамі абясшкодзіць міны, на сабе выпрабаваць правільнасць разгадкі іх «сакрэтаў».

Чалавек ідзе па вайне, чалавек, зрэшты, павінен перамагчы, нягледзячы на ўсе цяжкасці, перашкоды, што сустракаюцца на яго дарозе, бо ён верны сабе і свайму абавязку, воінскаму і проста чалавечаму. А. Міронаў за лёсам аднаго чалавека ўбачыў маральныя вытокі, патэнцыял вялікай мужнасці і ўпэўненасці ў будучым усяго нашага народа. Барацьба, якую вядуць героі аповесці «Праз тысячу смярцей», і ў першую чаргу Барыс Алексіевіч, тым і цяжкая, што нябачна самога праціўніка. Вораг — хітры, і мінёр павінен стаць вышэй яго і ў кемлівасці, і ў тэарэтычнай падрыхтоўцы. Але яшчэ больш важны сам маральны дух чалавека, які штодня можа ісці на смерць, каб толькі выратаваць жыццё іншых.

У творы ёсць эпізод, які, магчыма, падаецца і другарадным (размаўляюць толькі двое), але менавіта ён шмат дадае да раскрыцця ідэйнай задумы аповесці:

«Но Тёмин (адзін з герояў.— А. М.)—разоружитель, сын же его был, видимо, только минёром.

— Какая разница?

— Большая! Минёр должен действовать хотя с умом, с большой осторожностью, но — по готовой инструкции, по какому-то шаблону. А этот шаблон - инструкцию должен составить для него специалист-разоружитель».

«Разоружитель» — Алексіевіч у аповесці неаддзельны ад Алексіевіча-чалавека. А. Міронаў паказвае свайго героя не толькі добрым спецыялістам, але і спагадлівым таварышам, які заўсёды гатовы прыйсці на дапамогу іншым. Асабліва гэта заўважаецца, калі ён становіцца вопытным спецыялістам, атрымлівае павышэнне па службе. Маладыя воіны бачаць у яго асобе чалавека, адданага ваеннай справе.

Не закончылася работа для Барыса Алексіевіча і пасля вайны. Ён застаецца на службе, бо ўпэўнены, што яго веды, практычныя навыкі спатрэбяцца, мажліва, тут, дзе па-ранейшаму ідзе барацьба за жыццё.

Барыс Алексіевіч прайшоў складаны шлях ад рабочага мінскага завода «Камунар», а затым начальніка канструктарскага бюро ў Ленінградзе да вялікага ваеннага спецыяліста, інжынер-палкоўніка. Яго мужнасць — гэта мужнасць чалавека, які свой лёс звязаў з лёсам Радзімы. А. Міронаў праўдзіва, з высокім майстэрствам раскрыў характар свайго героя. Аповесць «Праз тысячу смярцей» арганічна ўпісваецца ў ранейшыя творы пісьменніка, у якіх паказаны ваенныя і мірныя будні савецкіх маракоў. Аўтар гэтага твора даў жыццё, дакладней новае жыццё, многім людзям, якія загінулі за Радзіму. Праўда іх подзвігу асветлена ў ракурсе падзей, якія ніколі не будуць забыты.

Аднак нельга не зрабіць аўтару адну заўвагу. А. Міронаў часта, калі расказвае пра ваенных спецыялістаў, пераходзіць на нейкі завельмі афіцыйна-пратакольны стыль. У выніку — паніжаецца эмацыянальнасць чытацкага ўспрыняцця. Гэта менш заўважаецца ў часопісным варыянце (там аповесць надрукавана з пэўнымі скарачэннямі), і больш адчувальна ў самой кнізе.

І ўсё ж, думаецца, чытач даруе аўтару некаторую няўважлівасць да мовы. Ён застанецца ўдзячным яму за аповесць. Твор з асаблівай цікавасцю будзе прачытаны юнакамі, тымі, хто рыхтуецца прысвяціць сябе нялёгкай, поўнай своеасаблівай рамантыкі, ваеннай службе.

**Алесь МАРЦІНОВІЧ.**

А. Міронаў. «Праз тысячу смярцей». Аповесць. На рускай мове. Мінск. «Мастацкая літаратура», 1972.

# «...ЛЮБВІ, ФАНТАН ЖЫВЫ»

«Бахчысарайскі фантан» стаў своеасаблівай «савецкай класікай» балетнага тэатра. Спектакль — не толькі гісторыя, ён здольны хваляваць і сённяшніх гледачоў, таму што жыццё — вечная любоў, якой прысвечаны балет, таму што не састарэла тэма перараджэння душы пад уплывам гэтага вялікага і высокага пачуцця (яна гучыць і ў такіх балетных пастаноўках апошніх дзесяцігоддзяў, як «Сцежкаю грому» К. Караева, «Паненка і хуліган» Д. Шастаковіча, «Святло і цені» Г. Вагнера ў нашым тэатры оперы і балета і інш.).

На мінскай сцэне Р. Захараў, стварыўшы абноўлены варыянт балета, змяніў пластычны малюнак асобных сцэн, зліў у адно два апошнія акты, паставіў «на пальцы» некаторыя танцы кардэбалету, але пакінуў без змены логіку дзеяння і развіццё ўзаемаадносін галоўных дзеючых асоб балета. Можна, відаць, бясконца аспрэчваць тое ці іншае рашэнне балетмайстрам асобных сцэн, большую або меншую прысутнасць у іх бытавых дэталей (мне, напрыклад, здаецца, што эпізод нападу татар на польскі замак у 1-м акце крыху залішне перагружаны падрабязнасцямі: грабяжом, вар'яцтвам і д. т. п.), але бясспрэчна, што цэнтральная лінія спектакля, эмацыянальны ток, які даюць Марыя — Гірэй — Зарэма, поўныя напружання і раскрываюцца ў балеце пераканаўча. Яны пакідаюць уражанне. Пры жаданні можна вельмі доўга разважаць аб перавагах так званага сімфанічнага балета, які бурна развіваецца ў наш час, у параўнанні з балетам-п'есай, балетам-драмай, якім з'яўляецца, у асноўным «Бахчысарайскі фантан», але, вядома ж, трэба прызнаць, што сапраўдны твор мастацтва застаецца ім, да якога б напрамку ён не належаў. І «Бахчысарайскі фантан» з яго трывалай сцэнічнай драматургіяй, моцнай рэжысурай, яркімі вобразамі, моцнымі характарамі, з'яўляецца ў гэтых адносінах пераконваючым прыкладам.

Спектакль для балетнай трупы тэатра з'яўляецца сапраўднай школай акцёрскага майстэрства. Вядома, што праслаўленымі выканаўцамі галоўных партый у гэтым спектаклі акрамя Галіны Уланавай былі Канстанцін Сяргееў, Пётр Гусеў, Вахтанг Чабукіяні, Ала Шэлест, Майя Плісецкая. Нельга не ўспомніць тут і выдатныя работы ў балеце беларускіх артыстаў: С. Дрэчына — Гірэя, А. Нікалаевай — Зарэмы, З. Васільевай і Н. Мадзінскай — Марыі, якія стварылі яркія, літаральна незабыўныя вобразы.

На выканаўцаў галоўных партый у балеце ўскладаюцца складаныя і шматгранныя задачы, таму што вобразы развіваюцца на працягу спектакля: з бесклапотнай дзяўчынкі, наіўнай і гарэзлівай спачатку, Марыя ператвараецца ў жанчыну, якая перажыла страту каханага, мужна і непахісна абараняе сваё разуменне кахання і трагічна гіне ў фінале.

Цяперашняя выканаўца гэтай ролі таленавітая маладая балерына Л. Бржазоўская пакарае гледачоў высакародствам танца, глыбінёй і сапраўднасцю драматычнага перажывання. Як гэта ні дзіўна, балерыне найбольш удаліся самыя складаныя моманты ролі. З тонкім разуменнем сутнасці вобраза выконвае яна дуэты-дыялогі з Гірэем, Зарэмай, славутую сцэну смерці.

А вось у 1-м акце ёй усё ж некалькі не хапае юнацкай непасрэднасці, цеплыні, чароўнасці маладосці — нечага з таго, што прысутнічае ў яе партнёра Юрыя Траяна, які выконвае ролю Вацлава і стварае шчыры, па-юнацку ўсхваляваны вобраз.

Аб іншых выканаўцах партый Марыі і Вацлава — народнай артыстцы БССР Ніне Давыдзенка і заслужаным артысце рэспублікі Яўгену Паўловічу можна і трэба гаварыць асобна і падрабязна. Тым больш, што на сцэне тэатра нядаўна з вялікім поспехам прайшла творчая справаздача нашай вядомай балерыны.

Не менш, а можа і больш складаны, чым роля Марыі ў псіхалагічных адносінах вобраз Гірэя. Артысту Л. Чахоўскаму ў цэлым удаецца дастаткова пераканаўча перадаць сілу пачуцця, якая ахапіла Гірэя і прывяла яго, уладара гарэма, да разумення кахання ўзвышанага і адзінага. Выдатна праводзіць артыст сцэны забойства Вацлава і першай сустрэчы з Марыяй, адажыо з ёю, эпізоды з Зарэмай і некаторыя іншыя сцэны. Але ў фінале балета тэмперамент акцёра пераліваецца праз край і Л. Чахоўскі там-сям пачынае «рваць страсці ў шматкі», крыху парушаючы тым самым межы мастацкай меры.

У вобразе Гірэя ў балеце ёсць своеасаблівы харэаграфічны «падгалосак» — яго падданы і военачальнік Нуралі. Нягледзячы на параўнальна невялікае месца, адведзенае ў балеце гэтай ролі, артыст В. Саркісян змог стварыць яркі і цэласны вобраз, магчыма, адзін з самых яркіх у спектаклі. У яго Нуралі можна ўбачыць і водбліск «дзікай душы» самога Гірэя, якім быў ён да сустрэчы з Марыяй, што пераўтварыла і яго, і слугу, па-сабачы адданага свайму пану. І, як заўсёды, — «на вышыні» віртуознае тэхнічнае майстэрства, якое зліта з «узорам» і «працуе» на яго.

Тэмпераменту, страсці, «лішкі» якіх мы бачым у Гірэя, не хапае, на жаль, выканаўцы ролі Зарэмы — А. Карзянковай. Вядома, актрысу нельга папракнуць у невыразнасці або ў тым, што яна няправільна раскрывае вобраз. У гэтых адносінах у А. Карзянковай усё лагічна абгрунтавана і дастаткова зразумела. Але вобраз гэтай «зоркі любві, прыгажосці гарэма», грузінкі, «народжанай паблізу Каўказа», атрымаўся, на мой погляд, нейкім халаднаватым і вялым. Вогненныя (па лібрэта) пачуцці Зарэмы, яе пакуты пакідаюць гледача ў многім абыякавым, што ў значнай меры зніжае эмацыянальны напал 2-га акта, які амаль цалкам прысвечаны ёй. І атрымліваецца, што па жывасці, тэмпераменту Зарэму ледзь не пераўзыходзяць іншыя жыхаркі гарэма — Чорная жонка і Дзяўчына са званочкамі ў выдатным выкананні Р. Красоўскай і С. Бастун. Вышынь драматызму Зарэме — Карзянковай удаецца дасягнуць, бадай, толькі ў сцэне, калі, раскінуўшы ў гатоўнасці рукі, яна з радасцю ідзе насустрач кінжалу Гірэя, гатовая як радасць прыняць смерць ад рукі любімага.

Выразную і тэмпераментную інтэрпрэтацыю атрымала партытура балета ў аркестры тэатра, якім кіруе дырыжор Т. Каламійцава.

Такім чынам, «Бахчысарайскі фантан» зноў пачаў сваё існаванне на сцэне нашага тэатра. На парозе 40-гадовага юбілею гэтага спектакля хочацца пажадаць, каб і надалей балет меў такое ж слаўнае жыццё, як і фантан у Бахчысараі, апеты Пушкіным, у якім

«Журчит во мраморе вода...
Не умолкая никогда...»

**Юлія ЧУРКО.**



Сцэна са спектакля «Бахчысарайскі фантан».
Фота Ул. КРУКА.

# У КАГО Ж ГАРАЧАЕ СЭРЦА?

*«ГАРАЧАЕ СЭРЦА» А. АСТРОЎСКАГА У РУСКІМ ТЭАТРЫ БССР імя М. ГОРКАГА*

П'ЕСА ГЭТА напісана выдатным драматургам не зусім звычайна: маючы глыбокі жыццёвы грунт, яна гучыць з адкрыта гратэскавым завастрэннем сітуацый і персанажаў. Ёсць у ёй і ўмоўнасць — аўтар нібы «дамаўляецца» з гледачамі, што на сцэне амаль усё гіпербалізаванае. І тут, у «Гарачым сэрцы», драматычныя калізіі і катастрофа, паводле слоў М. Дабралюбава, адбываюцца ў выніку сутычкі «...двух партый — **старэйшыя і малодшыя, багатыя і бедныя, свавольныя** і **пакорлівыя**». Толькі паказана гэта ваяўнічым выкрывальнікам «цёмнага царства», дэспатычна-патрыярхальнага ладу жыцця расійскага купецтва.

**Да таго ж яшчэ — у сцэнічнай гісторыі «Гарачага сэрца» быў класічны ўзор смелага і глыбокага ўвасаблення ўсёй складанай ідэйна-мастацкай праблематыкі, звязанай з пастаноўкай п'есы — мхатаўскае, прапанаванае і ажыццёўленае К. Станіслаўскім вырашэнне. Хрэстаматыйны прыклад. Вядомы. Вывучаемы ва ўсіх тэатральных навучальных установах.**

**Зразумела, тэатр, які бярэцца ставіць «Гарачае сэрца», свядома ідзе на пэўную рызыку. Ці атрымаецца сучасны спектакль, дзе будзе адкрыта нешта самастойнае і, адначасова, «эстафета Станіслаўскага» не згубіцца? Ставіў ці не такое пытанне калектыў, але яно хвалюе нас, гледачоў. З ім мы і пачынаем глядзець спектакль Рускага тэатра БССР, пастаўлены рэжысёрам А. Смеляковым.**

**Сцэна абавязана адразу паказаць тое, што меў на ўвазе А. Астроўскі. Высокі плот і моцныя замкі. За імі — двор купца Паўліна Кураслепава. Там, на гэтым двары, хаваюць гаспадары ад свету і сваё разбэшчанае жыццё, і слёзы, што льюцца з сэрцаў прыгнечаных і прыніжаных людзей. Дзікія норавы там, за высокім плотам. І — трагедыі...**

Мушу сказаць, што фантасмагарычнага малюнку «кураслепаўшчыны» ў пастаноўцы А. Смелякова няма. Ёсць асобныя рысы адлюстраванага «п а в о д л е Астроўскага» купецкага жыцця. Здагадваешся, што пастаноўшчык, мабыць, разглядаў здымкі мхатаўскага спектакля, чытаў літаратуру аб ім. Ад пэўных характарыстык класічнага плана ён адмовіцца не мог. Але і вельмі клапаціўся, каб не пераймаць, не паўтараць агульнавядомае. Мне асабіста такое становішча рэжысёра здаецца своеасаблівым творчым «раздарожжам». Ва ўсякім разе тое, што зроблена на сцэне, дае падставы пра такое «раздарожжа» думаць.

Кураслепава іграе артыст А. Бялоў. Персанаж ў яго атрымаўся на дзіва аднастайны. Як кажуць, «фактура» ды і тэмперамент у яго цалкам адпавядаюць ролі. Адчувае артыст і гістарычную стыхію вобраза. Чаму ж тады яго Кураслепаў такі дробны па сутнасці? Няўжо ён разам з рэжысёрам так разумее гратэск — аднастайнасць, зацятасць, адназначнасць! Нават тады, калі Кураслепаў А. Бялова адстойвае свае правы (правы на дзікую разбэшчанасць!) і саслоўныя прэтэнзіі, персанаж выглядае не смешным, а нейкім па-карыкатурнаму прыніжаным, бо адсутнічаюць у ім, хай сабе і цьмяныя, тупыя, але жывыя кураслепаўскія разважанні і пачуцці. Сатыра аказалася зведзенай да так званай фельетоннай задачы вобраза.

Артыст нібы і смяшыць залу, а зале не смешна. Замест выкрыцця кураслепаўшчыны сродкамі гратэску — дэманстрацыя н а о г у л дурнога, н а о г у л дзікага «купчыны».

Жывыя рысачкі развіцця вобраза ў абставінах, якія на час сцэнічнай дзеі сталі абставінамі існавання багатага падрадчыка Тараса Хлынава, перадае артыст Ю. Сцяпанаў. Хлынаў — нувярыш-буржуа, выгадаваны яшчэ на глебе прыгоннага права. Верыш, што ён стаў самадурам, адчуўшы сваё становішча ў грамадстве, дзе такім усё дазволена. Але і Ю. Сцяпанаў вельмі хутка нібы спыняецца, і яго Хлынаў раптам выглядае скамянелым. Ніякай філасофіі хлынаўшчыны: страшэнная духоўная спустошанасць і нават парадаксальны для яго сум засталіся па-за ўвагай выканаўцы ролі. П'яныя пагулянкі — і тыя выглядаюць у яго як звычайныя выбрыкі пракудлівага гарэзы з «грашыма». Між тым, варта было б артысту паглыбіцца ва ўнутранае жыццё гэтага тыпізаванага характару, які шалее ад мільёнаў, усведамляе не надта вялікім сваім розумам, што і яны не прыносяць шчасця. І ад гэтай дзіўнай «разгубленасці» дзічэе ўсё больш, даходзіць да паталогіі самадурства.

**На жаль, як і Кураслепаў, Хлынаў на мінскай сцэне пазбаўлены «падводнай плыні» ў раскрыцці матываў паводзін і ўчынкаў. Страчана маштабнасць вобраза, якую ў мхатаўскім спектаклі так ярка перадаваў незабыўны І. Масквін. Хлынаў Ю. Сцяпанава — яшчэ адна карыкатура ў чарзе адназначных персанажаў пастаноўкі А. Смелякова.**

Затое рэжысёр змог з артыстам К. Шышкіным наблізіцца да арыгінальнага і саквітага раскрыцця вобраза гараднічага Серапіёна Градабоева.

Пасля спектакля, аб якім я пішу, тэатр наладзіў абмеркаванне яго з гледачамі. Мая суседка, вучаніца прафесійна-тэхнічнага вучылішча, спытала: «А хто ж тут з гарачым сэрцам?» Адказ на такое пытанне павінен быў даць спектакль. Больш таго — п'есу трэба іграць так, каб глядач б а ч ы ў гэтае сэрца на сцэне.

Выканаўца ролі Парашы, дачкі Кураслепава ад першага шлюбу, актрыса Л. Арцабасава, імкнецца паказаць натуру валявую, здольную на пратэст супраць кураслепаўшчыны і хлынаўшчыны. Толькі яна «забываецца» на адно: Параша — дзяўчына сціплая, і выклік кураслепаўшчыне выспявае ў яе гарачым сэрцы. У спектаклі ж гераіня паводзіць сябе паводле рацыянальнага размеркавання сіл. Нават у сварцы з мачахай Параша — Арцабасава выглядае больш задзіракай.

**Зададзенасць у характарыстыцы Парашы перашкаджае актрысе паказаць, як глыбока — сэрцам! — перажывае гераіня тое, што яе гарачая любоў да Васі Шустрага адрасавана натуры слабай, дробнай. Без унутранай напружанасці (у лепшым сэнсе слова) тут сардэчнай барацьбы Парашы з самой сабой не раскрыеш. Празмерна «ваяўнічая» выкрывальніца не магла пакахаць т а к о г а Васю (артыст Д. Мазура). І зала адчувае гэты пралік рэжысуры, а таму і не «перажывае» разам з Парашай.**

Па-акцёрску ярка выконваюцца ў «Гарачым сэрцы» на мінскай сцэне другарадныя ролі. Пераконваюць у праўдзе паводзін сваіх персанажаў В. Краўчанка (жонка Кураслепава), Р. Янкоўскі (прыказчык Наркіс), М. Сокал (Сілан), Э. Гарачых (Арыстарх), В. Быкаў (Гаўрыла). Праўда, і яны выступаюць нібы па-за рэжысёрскай магістраллю. Скажам, В. Быкаў не здолеў пераканаць нас, што Параша магла і была нават «асуджана» на каханне да яго героя — Гаўрылы. Дзіўная статычнасць раптам апаноўвае артыста. І вартым гарачага пачуцця Парашы яго герой быць не можа.

**Абдумваючы свае ўражанні ад спектакля, я зноў і зноў вяртаюся да таго, што па-рэжысёрску ён сканструяваны загадзя, а потым пад малюнак падганялася і выкананне ролей. Вынаходніцтва праяўляецца А. Смеляковым пераважна там, дзе ідуць адкрыта камічныя эпізоды. Напрыклад, пульхную Матруну Харытонаўну (жонку Кураслепава) прымушаюць выскокваць з каморкі каханка Наркіса праз вузенькае акенца. Што ж, зала смяецца. А густ?.. Чамусьці Вася Шустры раз-пораз падае ў ногі ўсім, ад каго ён залежыць. Непатрэбным з'яўляецца ў мастацкім афармленні слуп з царскім арлом, бо з п'есы абсалютна ясна, калі адбываюцца падзеі. А вось двор заможнага Кураслепава выглядае засмечаным і забруджаным — няўжо такім чынам трэба «дыскрэдытаваць» адмоўны персанаж?!**

...Пісаць такі водгук на спектакль прафесійна сталага калектыву вымушае тое, што ён паказвае на сцэне. На гэты раз значная і глыбокая п'еса Астроўскага не атрымала вартага ўвасаблення. Трэба спадзявацца, што творчыя пралікі, адчувальныя ў цяперашнім «Гарачым сэрцы», не паўторацца ў наступных сустрэчах тэатра з драматургіяй выдатнага рускага пісьменніка.

**Ф. БЫКАВА,**
кандыдат філалагічных навук.






*Сёння на карэспандэнцкім пункце «Літаратуры і мастацтва», якія адкрыты на Мінскім трактарным заводзе, «дзяжурыць» мастак Альберт Морсаў.*

*Паэзія агню і металу, веліч здзяйсненняў чалавека, які авалодаў магутнай тэхнікай,— вось тэма яго малюнкаў...*



У майстэрнях мастакоў



# МІКУЛІНСКАЯ РАПСОДЫЯ

Яна пачнецца крыху пазней. А спачатку...

Спачатку пра тое, што я пачула і ўбачыла, калі пераступіла парог майстэрні Канстанціна Міхайлавіча Касмачова.

Я пачула звон...

На тысячу ладоў «спявалі» вялікія і маленькія званы. Яны то настойліва заклікалі на абарону Айчыны, то пераможна грымелі, то скардзіліся на нешта, то залівіста і шчыра ўслаўлялі моц і веліч народа...

І адначасова я ўбачыла купалы крамлёўскіх званіц. Жоўтыя і аранжавыя, яны «перакрэслівалі» неба, спрачаліся з яго адценнямі. Купалы ліліся то плаўна, то вадаспадамі, уражвалі закончанасцю ліній, выклікалі гордасць за розум і фантазію, якімі так шчодра адарыла прырода чалавека.

Мастак захапляецца помнікамі рускага і беларускага дойлідства, майстэрствам і мастацтвам творцаў гэтых збудаванняў, муляраў, цесляроў, разбяроў па камні і дрэве, іх густам, талентам, здольнасцю знайсці разнастайнасць у аднастайным, багацце ў сціслай абмежаванасці строга вызначаных форм.

Звон аддаляецца. Звон сціхае.

Наступае цішыня. Не тая, што сімвалізуе пустату, а напоўненая непаўторнымі гукамі прыроды. Пачулася, як шапоча чарот, схіліўшыся пад лёгкім ветрам, як плешча вада ў азёрах, як звініць камар.

На сцяне — ужо іншыя работы мастака. Самыя апошнія. Яны напісаны год назад. Цяпер Канстанцін Міхайлавіч хворы. Вялікая несправядлівасць — у мастака баляць рукі. Рукі, якія павінны збіваць рамы, грунтаваць палатно, змешваць фарбы, трымаць пэндзаль.

Але вымушаны прыпынак на шляху дае магчымасць азірнуцца, ацаніць зробленае.

Маленькая вёска Мікуліна размешчана на паўдарозе паміж Віцебскам і Смаленскам. Тут нарадзіўся мастак, сюды ён прыязджае кожны год. Серыя мініяцюр, пра якую мне хочацца расказаць, напісана падчас аднаго з прыездаў Канстанціна Міхайлавіча ў родную вёску. Усе яны вызначаюцца незададзенасцю сюжэта. Мастак быццам проста любуецца тым, што трапляе ў поле яго зроку, захапляецца дыханнем прыроды, дыханнем жыцця. Яго пейзажы «гавораць», здаецца, іх можна пачуць.

Мажорная па каларыце карціна «Ля роднага дома» нібыта ўступ да мікулінскай рапсодыі. Пачатак вясны. Відаць, нядаўна прайшлі ліўневыя дажджы і глеба «задыхала». На пярэднім плане — зямля. Цёмна-карычневая, з бэзавым адлівам, яна выглядае таямнічай і цудоўнай. Крыху далей, быццам народжаны ёю, — дом і некалькі дрэў у квецені — частка саду, вельмі старога саду — сведкі многіх падзей, якія адбываліся ў гэтым доме. Спалучэнне пяшчотных ружова-белых адценняў кветак з карычнявата-шэрымі фарбамі магутных, пакрытых шурпатай карой ствалоў стварае вобраз бясконцасці жыцця, яго бесперапыннага аднаўлення. Усё тут трывала. Моцна прыраслі людзі і дрэвы да гэтай глебы.

Нібы працягам папярэдняй работы з'яўляецца пейзаж «Зацвілі яблыні». Той жа сад, толькі з другога пункту. Некалькі вулляў размешчана каля дома, але самога дома не відаць, ён недзе ўбаку. Калі Канстанціну Міхайлавічу палюбілася якая-небудзь натура, ён потым доўга не можа ёй здрадзіць. Ён зноў піша сад, набліжае яго да нас, запрашае быць яго гасцямі, удыхнуць свежае, напоенае водарам зямлі і траў паветра.

Калі я глядзела гэтую карціну, чамусьці прыгадаўся фільм «Печкі-лавачкі», які нядаўна выйшаў на экраны. Аўтар сцэнарыя, пастаноўшчык і выканаўца галоўнай ролі — вядомы пісьменнік, рэжысёр і акцёр Васілій Шукшын захапляецца, калі можна так сказаць, вясковым ладам жыцця. І так атрымліваецца — хоча таго аўтар ці не,—што гэты лад, адзінаварты. Горад — гэта адна мітусня, выцякае з фільма, і людзі там, хоць і не зусім дрэнныя, але і не вельмі добрыя. Мне здалося, што катэгарычнасць, з якой аўтар праводзіць сваю ідэю, пакідае людзей раўнадушнымі да яе.

У мікулінскіх пейзажах Касмачова няма такога супрацьпастаўлення. Яны вабяць шчодрай шчырасцю. Адразу ж адгукаешся сэрцам на напісаную некалькі раней і ўжо знаёмую па пярэдніх выстаўках работу «Чарот». Вабіць таямнічая сінь возера, што дажывае ўжо свой век. Магутнай сцяной наступаюць на яго травы, адваёўваючы ўсё новыя і новыя тэрыторыі. Але яно дажывае прыгожа — ва ўрачыстым уборы з белых гарлачыкаў і цёмна-барвовага чароту. У маленькім пейзажы — заўсёды хвалюючая думка пра жыццё, пра тое, што прыгожае — вечна.

Пейзаж «Мікулінскія пагоркі» — гімн зямлі. Зямля ў ім напісана «буйна», яна займае пярэдні план. Толькі што прайшоў трактар, сар-

# ГАРМОНІЯ І КАНФЛІКТЫ ФАРБАЎ

ПА ВЫСТАВАЧНЫХ ЗАЛАХ

Кожны архітэктар—гэта яшчэ і мастак. Дакладней, павінен быць ім.

Зразумела, гэтая думка—далёка не адкрыццё. І, зразумела, архітэктару зусім не абавязкова па-майстэрску валодаць светаценем і па нядзелях цягаць на плячы эцюднік, каб мець права называцца мастаком. Але ж калі ты сапраўдны мастак, — твая рука непазбежна пацягнецца да пэндзля.

Як пацягнулася ў Таццяны Ханінай.

«Архітэктар Таццяна Ханіна (Белгіпрасельбуд) — выпускніца Беларускага політэхнічнага інстытута. Яна аўтар праектаў шэрагу жылых і грамадскіх будынкаў, работ па ландшафтнай архітэктуры (9-павярховы жылы будынак з кафэ па вуліцы Харкаўскай у Мінску, крыты рынак у Оршы, парк імя 50-годдзя Кастрычніка ў Мінску і інш.).

Заняткі жывапісам пачала пад кіраўніцтвам вядомых у рэспубліцы мастакоў С. Каткова і Я. Красоўскага...»

Таццяна Ханіна—аматар: яна малюе толькі ў той час, які прынята называць вольным. Аднак работы яе выкананы на добрым прафесійным узроўні. Гарманічнасць сюжэта і тэхнічных прыёмаў яго раскрыцца, складанае колеравае гучанне, часта не пазбаўленае драматызму, ды тая асаблівая артыстычнасць, якая прыходзіць да мастака толькі разам з дасканалым валоданнем тэхнікай, —

# ІМ ПЕСНЯ ПРАЦАВАЦЬ ДАПАМАГАЕ

### РАДАСЛОЎНАЕ «ДРЭВА»...

— Шурка, Шурка вярнуўся, — закрычалі ў адзін голас хлопцы і дзяўчаты і кінуліся абдымаць юнака ў вайсковай форме. А той неяк разгублена моўчкі глядзеў на сваіх сяброў, падатліва апынуўся ў руках, якія моцна апчаперылі ладную яго постаць.

Потым было нямала такіх сустрэч і з Аляксандрам Паўлавым, і Уладзімірам Балбасавым, і Віктарам Сібялёвым... Усе яны вярнуліся ў родны калгас імя XXII з'езда КПСС, на бацькоўскі парог, на сваю сінявокую і шумналесую Гомельшчыну, да якой учэпіста прыраслі душой і сэрцам. Прыраслі, каб прадоўжыць традыцыі вядомых прашчураў-хлебаробаў, якімі багата гомельская зямля.

Не дарэмна палымнее сёння ў гонар Аляксандра Сібялёва чырвоны сцяжок, высока ўзняты па флагштоку каля калгаснай канторы. Ён — лепшы калгасны трактарыст. У перыяд веснавой сяўбы працаваў самааддана, намнога перавыконваў зменныя нормы выпрацоўкі.

Адкуль у хлопцаў такі добры хлебаробскі гонар? Над гэтым пытаннем часта задумваецца дырэктар Яромінскага сельскага дома культуры Антаніна Пракоф'еўна Калачова. За дваццаць з лішнім гадоў працы ў культасветустановах яна шукала розныя формы работы па прафесійнай арыентацыі моладзі.

Магчыма гэта ўсё пачалося з шумных вечароў: «Пасвячэнне ў хлебаробы», «Шанаванне перадавікоў вытворчасці», «Дынастыі хлебаробаў». У Яромінскім доме культуры яны праходзяць цікава. Да такіх мерапрыемстваў старанна рыхтуюцца ўдзельнікі мастацкай самадзейнасці. Урачыстае веча становіцца сапраўдным калектыўным святам. Знаходзяцца свае самадзейныя паэты, якія складаюць сцэнарыі. А Антаніна Пракоф'еўна ў ролі рэдактара «прыдзірліва» вывучае кожны радок.

І вечар «Пасвячэнне ў хлебаробы» пачынаецца. На сцэне — самадзейныя артысты.

Чуецца голас дэкламатара Тані Ільюшчынка:

— Як у нас пад Гомелем,
Вёска ёсць Яроміна.
Імем з'езда партыі
Названы калгас.
Гэтай назвы варты ён:
Справамі ўпартымі
Хлебаробы шчырыя
Славяцца ў нас...

Хор спявае песню: «А наш вяночак спелага жыта...» Дзяўчаты з каласкамі выконваюць танец, славячы хлебаробскую працу.

У ролі заслужанай калгасніцы выступае Алена Любіч. Алена звяртаецца да тых, каму прысвечаны гэты вечар — маладых калгаснікаў, дае цёплы мацярынскі наказ: берагчы гонар хлебароба, даражыць бацькаўшчынай. Як самае святое, самае дарагое кожнаму шчыраму сэрцу, уручае «навабранцам» жменькі зямлі. Якое невыказнае пачуццё ахоплівае людскія сэрцы!

Гучыць заклік — любіць зямлю. І ў адказ чуюцца маладыя галасы:

— Клянёмся, клянёмся!!!

Радаслоўнае «дрэва» сям'і Сусікаў шырока разраслося на яромінскай зямлі. Дынастыя вядомых хлебаробаў шчыруе на родных палетках.

Старэйшыя Марыя Пракоф'еўна і Лука Рыгоравіч прысвяцілі хлебаробскай справе сваё жыццё. Яны і цяпер не ведаюць спакою, хаця на змену ім заступілі працавітыя дзеці. Таня і Тамара — вядомыя жывёлаводы ў рэспубліцы, лаўрэаты прэміі Ленінскага камсамола БССР. Ніна, трэцяя дачка, вучыцца на заатэхніка ў Рэчыцы, яна — калгасны стыпендыят. Пасля вучобы вернецца ў родны калгас.

Ганарацца калгаснікі працавітымі сем'ямі. У гонар іх і праводзіўся вечар «Дынастыя хлебаробаў Сусікавых». А хутка адбудзецца такі ж вечар у гонар сям'і Кузмянцовых. Люба Кузмянцова — кавалер ордэна Леніна, брыгадзір пятай паляводчай брыгады. Яе брат Мікола ўзначальвае брыгаду ў суседнім калгасе. Яны спаборнічаюць паміж сабой. А тут, на вечары, сыдуцца разам, каб у добрай змове падзяліцца радасцямі, сваімі планамі на будучае.

Вяртаюцца дадому былыя воіны. Становяцца механізатарамі, жывёлаводам, вядомымі хлебаробамі... Пасля ўборкі багатых ураджаяў звіняць камсамольскія вяселлі.

### ДУШОЙ І СЭРЦАМ З РАДЗІМАЙ

На вечар «Эстафета пакаленняў» у дом культуры сабралася калгаснікаў — яблыку не было дзе ўпасці. Моладзь сустракалася з ветэранамі грамадзянскай і Айчыннай войнаў.

— Ветэраны войнаў, вы тут? — гукае гучны голас вядучага.

— Тут!

— Удзельнік грамадзянскай вайны, кавалер ордэна баявога Чырвонага Сцяга Іван Петрусевіч! — першага па спісу выклікаюць на сцэну пад чырвоны сцяг.

Спакваля, з самай высокай па таму часу ўзнагародай, крочыць па прыступках сівагаловы дзядок.

Як зачараваныя, углядаюцца юнакі і дзяўчаты ў ветэрана грамадзянскай. А ён падбадзёраны, нават, здаецца, памаладзелы, спрабуе вычаканьваць цвёрды крок. Спыніўся, застыў, акідаючы мудрым поглядам прысутных у зале.

— Герой Савецкага Саюза Іосіф Дзякаў!

І на сцэну падымаецца ветэран-франтавік Вялікай Айчыннай.

Пільна, з гонарам сочаць за ім тыя, каму сёлета выпадае ісці на службу ў Савецкую Армію.

— Гвардыі радавы...

Ветэраны войнаў дзяліліся ўспамінамі з франтавых падзей, заклікалі моладзь выдатна працаваць і верна служыць Радзіме.

Памятаюць у калгасе імя XXII з'езда КПСС і пра тых, хто не вярнуўся дадому ў суровым і радасным маі 1945 года. Іх успамінаюць кожны год, на іх прыкладзе выхоўваецца патрыятызм у маладых калгаснікаў, якім прыйдзецца несці далей эстафету бацькоў і братоў.

У дзень Перамогі, калі над савецкай зямлёю калышыцца чырвонае полымя сцягоў, ля помніка-абеліска з вычаканенымі прозвішчамі загінуўшых збіраюцца яромінцы. І кожны год гэтыя сустрэчы праводзяцца паразнаму.

Сёлета ветэраны прынеслі сюды вясёлкавую гірлянду, абвітую гвардзейскімі стужкамі. Піянеры і школьнікі — вянкі з жывых кветак. За імі ў калоне крочылі калгаснікі, сельская інтэлігенцыя, госці.

Кожны раз па-новаму, цікава праходзяць у сельскім доме культуры і іншыя мерапрыемствы: провады ў Савецкую Армію, «Зарніцы». Як правіла, навабранцы разам з каштоўнымі падарункамі з сабой у дарогу бяруць па жменьцы роднай зямлі, загорнутай у хусцінку.

### ПАЭМА АБ ХЛЕБЕ

Заходзіш у малую залу Яромінскага сельскага дома культуры, дзе размешчаны «Інфармацыйна-прапагандысцкі цэнтр», і адразу кідаецца ў вочы прыгожа напісаны плакат «Зямля і людзі». Чытаеш і міжволі пачынаеш задумвацца, разважаць. Зямля і людзі — гэта і хлеб, і шчырая руплівая праца, і добрая таварыскасць, якая праяўляецца ў сацыялістычным спаборніцтве.

А сацыялістычныя абавязацельствы хлебаробаў — гэта і абавязацельствы культасветработнікаў. Яны неразрыўныя паміж сабою, як неразрыўная тая справа, дзеля якой позна не гасне ў доме культуры святло, дзеля якой маляўніча ўпрыгожаны сцены гэтай залы.

Ідзе трэці, рашаючы год дзевятай пяцігодкі. З густам аформленыя лозунгі і стэнды заклікаюць калгаснікаў да новых здзяйсненняў. Стэнд «На рубяжах трэцяга, рашаючага года пяцігодкі» ўводзіць нас у свет надзённых спраў калгаснікаў. І, гледзячы на яго, разам з тым радуешся, як далёка ступіў наперад калгас па вытворчасці збожжавых і мяса, як вырас грашовы даход гаспадаркі. За апошнія гады ўраджайнасць збожжавых значна павялічылася і склала летась — па 29 цэнтнераў з кожнага гектара. На 100 гектараў сельгасугоддзяў атрымана па 718,7 цэнтнера малака і 103,8 — мяса. Грашовы — мільён чатырыста тысяч рублёў. А сёлета чакаецца большы ўраджай і прыбытак.

У гэтай зале, можна сказаць, уся гісторыя калгаса. Тут шмат стэндаў: «Ёсць такая партыя», «Новыя абрады ў жыццё», «Камсамольцы — нашы землякі», «Народжаны ў спаборніцтве». А вось стэнд «Параўнай, падумай, дзейнічай». Ён выклікае вялікае захапленне. На ім, дарэчы, звяртае на сябе ўвагу і прозвішча Гаўрыленка. Пад ім значацца два брыгадзіры — Мікола і Віктар.

Як і многія юнакі, пасля службы ў Савецкай Арміі Віктар вярнуўся ў родны калгас. Адразу ж акунуўся з галавой у работу. Арганізатарскія здольнасці яго заўважылі кіраўнікі гаспадаркі. Прапанавалі ўзначаліць брыгаду. Віктар Гаўрыленка згадзіўся і папрасіў накіраваць яго ў самую адстаючую брыгаду.

З гонарам апраўдаў давер'е хлопец. Летась паляводы шостай брыгады атрымалі самыя высокія ўраджаі збожжавых і прапашных культур.

Сёлета пасля вучобы ў сельгастэхнікуме вярнуўся дамоў яго брат Мікола. Праўленне калгаса даверыла яму шостую, а Віктара перавяло ў другую.

**І. МАРКЕВІЧ,**
спец. карэспандэнт «Літаратуры і мастацтва».



Многімі цікавымі спектаклямі парадаваў гледачоў драматычны калектыў Гродзенскага палаца культуры тэкстыльшчыкаў. А вось — апошняя работа народнага тэатра: спектакль «А зоры тут ціхія...» па аповесці Б. Васільева. Пастаноўку ажыццявіў рэжысёр А. М. Гільварг. Па яго эскізах створаны дэкарацыі і светлавое афармленне.

На здымку: сцэна са спектакля «А зоры тут ціхія...». Рыта Асяніна — гукарэжысёр абласной рэдакцыі радыёвяшчання Людміла Сялянская, старшына Васкоў — навучэнец IV курса музпедвучылішча Вячаслаў Макуць, Ліза Брычкіна — кантралёр АТК завода «Электрапрыбор» Вольга Пужанкова, Соня Гурвіч — работніца палаца культуры тэкстыльшчыкаў Любоў Гардзейка, Жэня Камялькова — машыністка Упраўлення МУС Таццяна Сурмач і Галіна Чацвяртак — лабарантка нафтабазы Святлана Фядосенка.

Фота А. ПЕРАХОДА. (БЕЛТА).

# ЭКРАН ЗБІРАЕ ДАПЫТЛІВЫХ

ПРАБЛЕМЫ ВУЧЭБНАГА КІНО

Для дзяцей кіно, як свята. Кожны пераканаецца ў гэтым, калі наведае сталічны кінатэатр «Піянер», дзе пытанню эстэтычнага выхавання дзяцей сродкамі кіно надаецца вялікае значэнне. Тут яшчэ ў пачатку навучальнага года прадаюцца абанементы на ўсе мерапрыемствы. Перад сеансам дзеці слухаюць лекцыі спецыялістаў, стваральнікаў фільмаў. Праводзяцца віктарыны, абмеркаванні кінастужак. Такая форма пазакласнай работы значна пашырае кругагляд вучняў.

Важную ролю маюць прагляды экранізаваных твораў савецкай і замежнай класікі. Пры гэтым выключны ўплыў на дзяцей робяць фільмы на гістарычныя тэмы, аб Вялікай Айчыннай вайне.

Але было б няправільным думаць, што дэманстрацыяй фільмаў для дзяцей і юнацтва займаецца ў Мінску адзін толькі кінатэатр «Піянер». Ёсць у яго і філіялы — пятнаццаць кінатэатраў спадарожнікаў. Самы першы з іх быў створаны гадоў дванаццаць назад у СШ № 21. Кожную нядзелю тут адчынены клуб выхаднога дня з абавязковым паказам фільмаў на тэму, якая цікавіць гледачоў.

— Нядаўна мы правялі вельмі важнае, на наш погляд, мерапрыемства, — расказвае старшая піянерважатая школы Рэгіна Міронаўна Равіч. — Так, у час Тыдня касманаўтаў вучні самі рыхтавалі даклады, малюнкі, вершы. І, вядома, галоўная роля належала фільмам аб космасе. Наогул, мы не абыходзімся ў сваёй рабоце без фільмаў.

Аднак у гэтым артыкуле асобна хацелася б сказаць пра так званыя пазнавальныя фільмы. У эпоху навукова-тэхнічнага прагрэсу іх прапагандысцкае значэнне цяжка пераацаніць, у тым ліку і ў навучальным працэсе. Аб'ём ведаў, які навучэнцы павінны засвоіць, увесь час павялічваецца. Ці трэба казаць, што тут на дапамогу прыходзіць кіно, якое ўсё больш і больш становіцца неад'емнай часткай педагагічнай практыкі.

Навукова-папулярныя і вучэбныя фільмы выкарыстоўваюць у школах у тым выпадку, калі падрыхтоўка лабараторнага эксперыменту патрабуе шмат часу і паказаць яго ў класе немагчыма.

Узнікае яшчэ адна парадаксальная рэч. Аб'ём матэрыялу, як гаварылася, павялічваецца, а час, адведзены для яго вывучэння, фактычна скарачаецца. Гэта і абавязвае педагогаў усяляк удасканальваць старыя і шукаць новыя формы і метады навучання.

Навукова-папулярныя і вучэбныя фільмы ўсё шырэй асвятляюць розныя галіны навукі. Якое апісанне, які вусны расказ можна параўнаць з мовай экрана, які так наглядна і пераканаўча паказвае жыццё ва ўсёй яго шматграннасці?

Па сваёй мэтанакіраванасці навукова-папулярныя фільмы можна размеркаваць на дзве групы. Першая група. Фільмы адукацыйнага характару, якія нясуць у сабе пэўную скарбніцу ведаў, развіваюць інтэлектуальныя магчымасці ў школьніка, узбагачаюць запасы яго ўяўленняў. Другая група. Фільмы інструктыўныя. На думку іх аўтараў яны павінны вучыць абыходжанню з рознымі машынамі, знаёміць з раслінамі, жывёламі і г. д. Таму педагог заўсёды загадзя вызначае, якую задачу вырашае той ці іншы фільм.

Настаўнікі сцвярджаюць, што ўражанне экраннага вобраза ў дзяцей вельмі моцнае і ўстойлівае. Узяць хоць бы такую тэму па геаграфіі, як кругаварот вады ў прыродзе. Яе прыходзілася паўтараць па некалькі разоў, перш чым вучні засвоілі матэрыял. Але вось паказалі фільм і зусім інакшы эфект. Зацікаўленасць да прадмета ўзрасла. Вопыт з выкарыстаннем кіно даў станоўчы вынік. Зараз большасць урокаў у школе праводзіцца з паказам навукова-папулярных і вучэбных стужак.

Нагляднасць кінематографа не толькі раскрывае самыя складаныя біялагічныя, хімічныя і фізічныя з'явы, але і ўздзейнічае на вучняў эмацыянальна. З гэтага можна зрабіць вывад, што выкарыстанне кінафільмаў у навучальнай установе патрабуе яшчэ і педагагічнага назірання за гэтым працэсам,

Спашлюся на такія параўнанні. У адной школе было праведзена даволі цікавае даследаванне. Вучням старэйшых класаў прапанавалі паглядзець навукова-папулярны фільм «Якога колеру лета?». У ім ішла размова пра кветкі, што растуць у розныя перыяды года. Пасля прагляду педагог папрасіў расказаць змест кінастужкі. А вынік такі: сорак пяць працэнтаў адказалі на пытанні праз адну — тры мінуты пасля сеанса. Астатнія зрабілі гэта толькі праз тыдзень. Затое ве-





2.000 твораў былі прадстаўлены на VII мастацкай выстаўцы, якая нядаўна праходзіла ў Дрэздэне. З вялікай цікавасцю прымала грамадскасць ГДР справаздачу 1000 прафесійных і непрафесійных мастакоў і скульптараў.

Асаблівай увагай карыстаюцца работы — трыпціх Хэйнца Цандара «Вялікая нямецкая сялянская вайна», палатно Ульрыха Гахула «Лейпцыг — сустрэча маладых», скульптура Гейнрыха Дракэ «Памятайце В'етнам». Дзве апошнія работы вы бачыце на нашых здымках.

# У НАГУ З ЧАСАМ

Сярод апублікаваных у апошні час матэрыялаў, прысвечаных 90-годдзю з дня нараджэння Георгія Дзімітрава, асаблівай увагі заслугоўваюць дзве кнігі Тодара Генава — «Дзённік, напісаны задніх чыслом» і «Лейпцыгская эпапея».

Тэматычны змест гэтых твораў ахоплівае шырокае кола праблем, фактаў, падзей, якія надаюць ім гісторыка-мастацкі характар і ператвараюць іх у свайго роду публіцыстычную «энцыклапедыю» таго часу. Дынаміка перадачы, уменне аўтара зразумець «стыль» і вызначальныя тэндэнцыі эпохі, разнастайнасць жанравых апавяданняў, якія пераплятаюцца з роздумамі, яркімі фактамі і эпізодамі, і якіх звязвае як дакументальная праўдзівасць, так і ідэйны эстэтычны змест — усё гэта робіць кнігі Тодара Генава каштоўнымі ў мастацкіх і пазнавальных адносінах творамі.

Чытач мае магчымасць пазнаёміцца з выдатнымі прадстаўнікамі рабочага класа і прагрэсіўнай інтэлігенцыі, з абагуленымі вобразамі паліцэйскіх, цэнзараў, прыслужнікаў прадстаўнікоў пануючых класаў, якім уласціва духоўная спустошанасць і класавая абмежаванасць.

У дні эпічнага Лейпцыгскага працэсу Тодар Генаў адыграў значную ролю ў справе абароны Георгія Дзімітрава і яго таварышаў. Ён быў старшынёй Балгарскага антыфашысцкага камітэта, рэдактарам газеты «Вік», разам з маці Георгія Дзімітрава і Сыбі Дзімітравым прымаў удзел у мітынгах і сходах у абарону Георгія Дзімітрава. Некалькі разоў яго арыштоўвалі. Да Балгарскага антыфашысцкага камітэта далучыліся ўсе партыйныя і большасць антыфашысцкіх газет, арганізацый і таварыстваў.

Асабліва хочацца падкрэсліць арыгінальнае спалучэнне ў абедзвюх кнігах дакументальнасці з усхваляваным голасам публіцыста і мастака, удзельніка суровай барацьбы рабочага класа і Камуністычнай партыі. У сваіх творах Тодар Генаў перадае атмасферу сіл, якія змагаюцца, тыповую для Балгарыі таго часу абстаноўку, падкрэслівае кіруючую ролю партыі, раскрывае метады яе барацьбы, з гонарам гаворыць пра яе дасягненні ў галіне тэорыі і практыкі рэвалюцыйнай барацьбы. Нацыянальна-спецыфічнае ў кнігах непарыўна звязана з інтэрнацыянальнай прыродай рэвалюцыйнага руху, з магутнай Краінай Саветаў, з вопытам міжнароднай класавай салідарнасці, які арганічна звязаны з самой сутнасцю балгарскага антыфашысцкага руху.

**Сафія-прэс.**

# «ВАРАЖБІТКІ» НА ПАЎПРАВАДНІКАХ

Штодзённа ў вестыбюлі «Гранд сентрал», аднаго з двух галоўных ньюйоркскіх вакзалаў, з раніцы выстройваюцца чэргі. Некалькі чэргаў, параўнальна невялікіх, — за білетамі на паязды. Адна большая — да офіса кампаніі «Астрафлэш», дзе за невысокім бар'ерчыкам устаноўлена лічыльна-электронная машына, якая «прадказвае будучыню».

Дваццаты век, як бачым, уварваўся і ў вобласць, якая належала некалі шаманам і варажбіткам. Заплаціце пяць долараў, назавіце дзень і хоць бы прыблізна гадзіну свайго нараджэння, і ультрасучасны электронны механізм, прааналізаваўшы становішча зорак на небе, падмігне вам рознакаляровымі лямпачкамі і выдасць картку з прагнозам. З яго кліент можа даведацца, напрыклад, што «чацвер — найбольш падыходзячы дзень для таго, каб пусціцца ў рызыкоўную дзелавую справу». Другому машына растлумачыць, што ва ўсіх яго нягодах вінавата планета Юпітэр, якая ў гадзіну яго нараджэння аказалася правей Марса. Ну, што ёй было перамясціцца на некалькі мільёнаў кіламетраў! Трэцяму ЭВМ раіць пераехаць у іншы горад, дзе ў яго выправяцца справы.

Бізнес у «Астрафлэша» ідзе бойка. ЗША цяпер перажываюць вялікія эканамічныя цяжкасці. У краіне пастаянна растуць цэны, павышаецца кватэрная плата. Многія фірмы адчуваюць цяжкасці са збытам сваёй прадукцыі. Друк запоўнены артыкуламі пра крызіс валютнай сістэмы капіталістычнага свету, пра абясцэньванне долара. Вельмі высокае беспрацоўе, прычым не толькі сярод рабочых, але і сярод інжынерна-тэхнічных работнікаў. Ніхто не гарантаваны ад таго, што ў адзін цудоўны дзень не пазбавіцца работы. Усё гэта стварае няўпэўненасць, неспакой. Многія не разбіраюцца, у чым прычыны нягод, што абрушыліся на краіну. А таму ідуць да прадказальнікаў лёсу. Гэтым карыстаюцца прадпрымальныя дзялкі.

Кіраўнікі «Астрафлэша» адкрылі нядаўна другі «цэнтр прадказанняў». Ён размяшчаецца цяпер на першым паверсе 100-павярховага небаскроба «Эмпайер стэйтс білдзінг». Яны заяўляюць нават, што маюць намер паступова распаўсюдзіць свае аперацыі на ўсе штаты ЗША. З «Астрафлэшам» сupернічае кампанія «Тайм пэтэрн рысерч інстытьют», якая за 20 долараў рассылае прадказанні прама па пошце.

Папулярнасць электронных «варажбітак» у Злучаных Штатах падмацоўваецца самай хітрай рэкламай. Яна расце паралельна з ростам цэн, падаткаў, беспрацоўя. Злыя языкі жартуюць, што з планетамі лягчэй знайсці агульную мову, чым з прадпрымальнікамі-бізнесменамі, якія ўскладваюць увесь цяжар крызісных з'яў на працоўных.

**Э. БАСКАКАЎ.**
**(ТАСС).**

# СТАРАЖЫТНЫЯ РУКАПІСЫ ЙЕМЕНА

Два эксперты ЮНЕСКА Юсуф Ібіш і Махмуд аль-Гуль, вучоныя Бейруцкага Амерыканскага універсітэта, паведамілі аб існаванні ў Йеменскай Арабскай Рэспубліцы невядомых раней значных збораў рукапісаў. Гэтыя рукапісы, знойдзеныя ў гарадах Сана, Таізе і Забідзе, адносяцца да тэалагічнай школы мутазілітаў. Яны не толькі маюць дадзеныя, якія ўзбагачаюць ісламскую культуру, але і новыя факты аб уплыве грэчаскай культуры на іслам.

Вядомы амерыканскі ўсходазнаўца Чарлз Д. Адамс, дырэктар Інстытута па вывучэнню іслама Таронтскага універсітэта Макджыл, сцвярджае, што мутазіліты «былі аднымі з першых мусульман, якія выкарысталі катэгорыі і метады грэчаскай філасофіі для перадачы іх вераванняў, іх артадаксальныя праціўнікі выкарысталі тыя ж панцці, каб абвяргаць гэтыя вераванні; адсюль і ўзнікла схаластычная структура мусульманскай тэалогіі».

Мутазіліты з'яўляліся прадстаўнікамі рацыяналістычнай плыні ў ісламе, якія прызнавалі наяўнасць свабоднай волі ў чалавека і адвяргалі вучэнне аб прадвызначэнні. Школа мутазілітаў узнікла ў абстаноўцы барацьбы за ўладу пасля забойства трэцяга халіфа Асмана ў 656 г. н. э. «Мутазіліты, якіх праследавалі не толькі ў Багдадзе, але і ва ўсёй Абасідскай імперыі, знайшлі сховішча ў недаступных гарах Йемена», пішуць Ю. Ібіш і М. аль-Гуль. «Пачынаючы з XI стагоддзя да нядаўняга часу, іх вучэнне працягвала існаваць сярод паслядоўнікаў шыіцкай секты зейдзітаў», якія доўгі час займалі пануючае становішча ў палітычным жыцці Йемена.

На думку вучоных, вывучэнне гісторыі і культуры велізарнай часткі мусульманскага свету, які раскінуўся ад Усходняй і Паўднёвай Аравіі да краін Паўднёва-Усходу Азіі і Далёкага Усходу, у вялікай ступені будуць грунтавацца на знойдзеных рукапісах.

Ю. Ібіш і М. аль-Гуль напамінаюць пра тое, што «абшчына мутазілітаў, выхаваная на арыстоцелевай логіцы, высока цаніла грэчаскую думку і прымала яе прынцыпы, што прабудзіла ў яе няўтольную інтэлектуальную дапытлівасць».

«Аднак у X стагоддзі схаластычныя тэалагі, працаўнікі гэтай школы, пачалі ўзбуджаць народ супраць мутазілітаў і спальваць іх кнігі. Здавалася, што іх літаратура страчана назаўсёды. Цяпер нам вядома, што яна захавалася ў зборніках рукапісаў у Йемене».

У верасні 1971 года па просьбе ўрада Йеменскай Арабскай Рэспублікі эксперты былі накіраваны ў краіну для вывучэння стану старажытных рукапісаў і кніг, якія захоўваюцца ў публічных і прыватных зборах.

Калі ў Сана і Таізе большасць кніг і рукапісаў знаходзілася ў вельмі добрым стане, то ў Забідзе некаторыя вялікія зборы пашкоджаны.

Эксперты рэкамендавалі тэрмінова прыняць меры па захаванню каштоўных рукапісаў у Забідзе. Яны прапанавалі стварыць сучасную бібліятэку ў Сана і скласці каталог збораў рукапісаў, якія захоўваюцца ў вялікай мячэці горада, адзняць на мікрафільмы старажытныя кнігі і рукапісы ва ўсёй краіне, а таксама... закупіць пыласосы, каб пазбавіцца ад векавога пылу, якім пакрыты рукапісы.

**Навіны ЮНЕСКА.**

# УНІКАЛЬНАЯ АНТЫЧНАЯ ВАЗА

У 1965 годзе ў горадзе Ямболе былі адкрыты два захаванні позняй антычнай эпохі. Сярод шматлікіх рэчаў удалося сабраць асколкі шкляной вазы. Пасля шматгадовых даследаванняў навуковы супрацоўнік Археалагічнага інстытута Балгарскай акадэміі навук устанавіў, што ваза адносіцца да найбольш рэдкіх і прыгожых рэчаў антычнай эпохі. Ваза мае форму збана, упрыгожанага ажурнымі паясамі.

Такіх прыгожых (і, дарэчы, вельмі дарагіх рэчаў), якія захаваліся да нашага часу, не больш дзесяці. Знойдзеная ваза — пакуль што адзіная на Балканах,— з'яўляецца неперауздзеным узорам антычнай тэхнікі мастацкага шкла.

**Агенцтва «Сафія-прэс».**

# ВЯЛІКАЯ ДРУЖБА, АДЛЮСТРАВАНАЯ Ў МАСТАЦТВЕ

*У Сафіі адкрыта выстаўка «Балгара-савецкая дружба ў жывапісу». Каля сарака мастацкіх твораў, партрэтаў і пейзажаў расказваюць аб асобных фактах і падзеях, звязаных з гісторыяй шматвяковай братняй дружбы паміж двума народамі. Партрэты У. І. Леніна, Георгія Дзімітрава, Васіла Каларава, Дзімітра Благоева, рускіх і савецкіх людзей, карціны, якія адлюстроўваюць гераічную антыфашысцкую барацьбу балгарскага народа, пейзажы вялікай Савецкай краіны і будоўляў Балгарыі, дзе поплеч працуюць рускія і балгарскія спецыялісты, сведчаць аб імкненні балгарскіх майстроў выявленчага мастацтва найбольш поўна адлюстраваць багацце і сілу балгара-савецкай дружбы.*

**Агенцтва «Сафія-прэс».**



Вялікая вада. Фота П. ШАЎЦОВА.

## ГУМАР, САТЫРА




*ПА СВЕТУ МНОГА ПАХАДЗІЎШЫ*

**Міхась ЧАВУСКІ**

# УСЁ АДДАЙ І МАЛА

*Сцэна з амерыканскага жыцця*

**Элізабэт.** Хэло, Мэруэл! Даўненька мы не бачыліся. Ну, што новенькага? (Асеклася). Хто гэты мужчына? Ён так міла прывітаўся з табой! А ўсмешка! Усё аддай і мала!

**Мэруэл.** Ты не памылілася. Сапраўды — усё аддай і мала.

**Элізабэт.** Не інакш, друг дома?

**Мэруэл.** Зноў жа ўгадала! Бывае ў нас даволі часта!

**Элізабэт.** І — калі не сакрэт — як яго завуць?

**Мэруэл.** Яго, дарагая, і не завуць— сам прыходзіць.

**Элізабэт.** А як жа муж такое церпіць?

**Мэруэл.** А куды ён, бедненькі, дзенецца?

**Элізабэт.** І што, сямейны канфлікт? Муж сварыцца, патрабуе, каб яго і духу не было?

**Мэруэл.** Учора назат не запрасіў сесці.

**Элізабэт.** Канечне, мужа можна зразумець, але ж неяк трэба быць ветлівым...

**Мэруэл.** А на чым, дарагая, у нас сесці? Ніводнага ж крэсла ў кватэры не засталося. (Элізабэт здзіўлена міргае вочкамі). Гэты мілы чалавек— агент мэблевай фірмы Джэферсана. Забраў ужо за даўгі ўсю мэблю. Сёння, мабыць, прыйдзе па калыску. Вось так — усё аддай і мала!

**Рыгор ЛАЗУРКІН**

# МІМАХОДЗЬ

Пяро сатырыка было занадта вострае — таму яно рыпела і рвала паперу.

●

Згубленыя аўтарытэты бюро знаходак не вяртае.

●

Усё жыццё патрацiў на пошукі і— беспаспяхова. Нялёгкая гэта справа: знайсці сябе!

●

Згубіўшы, дужа не засмучайся: ты даў магчымасць знайсці другому.

# З ЮГАСЛАЎСКАГА ГУМАРУ

### АПОШНІ РАЗ

— Сёння я купляю ў вас кветкі апошні раз, — гаворыць юнак прадаўшчыцы кветак.

— Відаць, пераязджаеце на новую кватэру?

— Не, жанюся.

### САЛОН ПРЫГАЖОСЦІ

— Дзе ты была? — пытае муж жонку.

— У салоне прыгажосці.

— І што, ён сёння зачынены?

Пераклаў з сербска-харвацкай Л. САМАСЕНКА.

**Акім ЧЫЖ**

# Аднадумцы



Нядзеля. Вясна, як нейкі паэт сказаў, у сто сорак сонцаў палае. Дома не сядзіцца. Дай, думаю, прайдуся, пагуляю. Вядома куды — у гарадскі наш парк. Цянёк там, зеляніна...

Крочу сабе па дарожцы і заўважаю: нешта людзей малавата. Няйнакш, на сваіх дварах «казла» забіваюць. Ніяк іх не прывучыць да культурнага адпачынку... Вунь толькі адзін-адзіны наведвальнік па пустых дарожках блукае. Цікава, хто гэта? Ну, канечне, Панасюк! Вось заўважыў мяне, падыходзіць, за руку вітаецца:

— Здарова, Акім Сямёнавіч.

— Добры дзень, Нупрэй Захаравіч. Добры дзень.

— Гуляем? — пытае.

— Гуляю, Нупрэй Захаравіч. — І каб не патухла гаворка, заўважаю: —Выхадны дзень, а людзей малавата.

— Малавата, — згаджаецца Нупрэй Захаравіч.

Памаўчалі, паглядзелі наўкол.

— Прысесці няма дзе, —кажу. — Добра было б усцяж дарожак лавачкі паставіць...

— Ага...

— І кіёск са свежымі газетамі.

Панасюк моўчкі ківае галавой. І з гэтым, значыць, згаджаецца. А я развіваю далей сваю думку:

— Латок з марожаным. Напіткі...

— Толькі безалкагольныя, — ажыўляецца Нупрэй Захаравіч і шматзначна ківае пальцам перад самым маім носам.

— Вядома, безалкагольныя. Ліманад, крушон, хлебны квас... І вось яшчэ што я думаю, — каб атракцыён які...

— Цудоўна было б...

— Зялёны тэатр...

— Так, так.

— Эстраду...

— Во, во!

— Спартыўную пляцоўку...

— Ага.

— Кола агляду...

— Здорава!

Далей кола агляду фантазіі ў мяне не хапіла. Наморшчыў лоб, думаю, што б яшчэ ажывіла наш парк. Нічога больш у галаву не лезе. Заўважыў гэта Нупрэй Захаравіч, выручыў:

— Бывай, Акім Піліпавіч, — і працягнуў руку.

— Усяго добрага, Нупрэй Захаравіч. Шчасліва вам. Прывет жонцы, дзеткам.

Разышліся. Іду я дамоў і радуюся: так цудоўна пагутарылі! Нічога, што Нупрэй Захаравіч зблытаў маё імя па бацьку. Затое думкі нашы ва ўсім сышліся. А я вам скажу: не кожнаму пашчасціць мець такога аднадумца. Нупрэй Захаравіч Панасюк — мой непасрэдны начальнік, загадвае раённым аддзелам культуры. А я — дырэктар гэтага парку.

*ПАРНАСКАЯ ХРОНІКА*

# ВЯСЁЛАЯ МУЗА

*Мусіць, праўду людзі кажуць: чалавек, які шмат смяецца, даўжэй жыве... Не ўсе да гэтай ісціны даходзяць адразу, але ж... лепш пазней, чым ніколі. Мяркуючы па апошніх звестках, так вырашыў і паэт Васіль Зуёнак...*

*Праўда, часам яшчэ натрапіш у яговых вершах і на журботныя думкі... Ну, хоць бы вось такія:*

...Як і ўчора не спалася —
Зноў не спіцца сягоння...
Недзе сорак падкралася
І з парога не згоніш...

*Ды і ці варта пра гэтыя «сорак» думаць занадта? Не звяртайце ўвагі на іх, хай яны спрахнуць. Лепш кіньце вокам на першыя радкі верша: «Як і ўчора не спалася — зноў не спіцца сягоння...» Во-во! Так можа сказаць толькі малады сэрцам чалавек.*

*А які аптымізм ужо ў наступных радках:*

Ва ўспамінах воклiч круціцца
назолай:
«Эх, як позна-позна і як ранарана»...
І ў каго ж бы гэта папытаць
дазволу,
Каб на дзень хоць збегчы ад
гадоў-тыранаў!

*Ёсць, ёсць, знайшоўся такі вялікі чарадзей — «ВОЖЫК»! Гэта ён дазволіў Васілю Зуёнку «збегчы ад гадоў-тыранаў», гэта ён, калючы, у сваёй бібліятэчцы дапамог выдаць паэту зборнік гумарыстычных вершаў «Качан на п'едэстале». І цяпер разам з ім смяецца са старонак кніжкі паюнацку шчыра і весела і жартуе лагодна, як жартуе толькі моладзь! А над кім жартуе, над кім кпіць? Ёсць такія яшчэ розныя хвалько, балбатуны, п'яніцы, над якімі варта смяяцца. Адным словам, вiншуем, віншуем «памаладзелага» паэта Васіля Зуёнка з прыходам у гарачы цэх гумару і сатыры.*

АХОЎВАЙ ЗЕЛЯНІНУ

*З ЗАМЕЖНАГА ГУМАРУ*









«Литература и искусство» — орган Министерства культуры и правления Союза писателей БССР. Минск.

«ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА»

Выходзіць па пятніцах на шаснаццаці старонках.

Ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга друкарня выдавецтва ЦК КП Беларусі.



Індэкс 63856

АТ 05227

Адрас рэдакцыі: 220600 ГСП Мінск вул. Захарава. 19.

Тэлефоны: прыёмнай рэдакцыі — 33-24 61, намесніка галоўнага рэдактара — 33-25 25, адказнага сакратара — 33 44 04 аддзела літаратуры — 33 22 04, аддзела тэатра, кіно і музыкі — 33-24 62 аддзела выяўленчага мастацтва архітэктуры і вытворчай эстэтыкі — 33 24 62 аддзела публіцыстыкі — 33 21 53 аддзела культуры — 33 24 62 выдавецтва — 32-22-19 бухгалтэрыі — 32 15 87.

Рукапісаў рэдакцыя не вяртае.